№ 16 (757) 25 красавіка 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991... Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у сер...


## Каму належаць прадуктовыя крамы?

«Еўраопт», «Родная старонка» і «Рублёўскі» б'юцца за долю на рынку Беларусі. Старонка 5.




## Ганна Пазняк

Маці Зянона Пазняка некалькі дзён не дажыла да 90-годдзя. Старонка 9.



# Шлях пратэсту

Улады дазволілі **«Чарнобыльскі шлях»** у поўным аб'ёме. Ён пройдзе 26 красавіка. **Старонка 3.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Тэндэнцыі**

## За моцную і квітнеючую Бе-е-е-е-е-е-ларусь!

На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка двойчы ўздымаў **тэму авечкагадоўлі**.

«Рыхтуйце план развіцця авечкагадоўлі з гэтага года», — сказаў Лукашэнка на нарадзе па пытаннях палявання і рыбалкі. Амаль адразу гэта расцанілі як новую фішку кіраўніка дзяржавы. Маўляў, раней былі быкі, а цяпер вось авечкі.

На суботніку ў аквапарку Лукашэнка гэтую тэму працягнуў, нават прызнаўся, што трымае ў сябе дзясятак гэткіх жывёлін, раней ён казаў толькі пра карову.

«Я гэта праэксперыментаваў у сябе на ферме. У мяне дзясятак авечак. Мы іх ужо два разы стрыглі — вялікая колькасць воўны. Самыя лепшыя авечкі ў свеце, і яны выдатна сябе адчуваюць. Цяпер зробім гэта ва ўсёй краіне», — сказаў Лукашэнка. Ураду ў сціслыя тэрміны загадалі скласці план развіцця авечкагадоўлі.

Сапраўды, раней авечкі сустракаліся ў вёсках часцей, чым сёння. Чаму яны зніклі з падворкаў? Ці выгадна трымаць авечак у беларускіх умовах? Мы звярнуліся да тых, хто ўжо займаецца гэтым бізнэсам.

«На сёння гэта адзін з найлепшых варыянтаў для фермераў, — кажа Тайс Тэрон, фермер з Пружанскага раёна, які пераехаў сюды ў 1990-я з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. — Рынак ёмісты, таму цана выгадная. Асабліва сёлета, хоць і крызіс. А будзе якасць — будзе і кліент».

**Працяг на старонцы 2.**

**Грамадства**

### У Мінску хочуць запусціць «сталінобус»

Сталічныя ўлады пра ініцыятыву даведаліся з інтэрнэту. **Старонка 6.**



**Здарэнні**

### На Гродзеншчыне адбылася VIP-аварыя

Былы сенатар Казімір Рахатка на джыпе пратараніў легкавік. **Старонка 10.**



**Культура**

### Галубовіч: Паступацца прынцыпамі можна

але не даходзячы да прадажнасці. **Старонка 7.**



**Зоркі**

### Скарлет Ёхансан

прызналася ў беларускім паходжанні. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# За моцную і квітнеючую Бе-е-е-е-е-е-ларусь!

Працяг са старонкі 1.

Тайс гадуе авечак на мяса. Усю прадукцыю збывае даўняму кліенту, гандляру з Камароўскага рынка. 20-кілаграмовае ягня ў Тайса каштуе 1,3 мільёна рублёў (65 тысяч за кілаграм).

Цяпер у атары 150 асобінаў. На жыццё Тайс не скардзіцца, хоць вялікіх прыбыткаў не мае.

### Нага баранова

**Інгрыдыенты на 10 порцый**

Ножка баранчыка (2-2,5 кг)

1 ч.л. солі

½ ч.л. чорнага перцу

½ ч.л. сушанага маярану (ці арэгана)

Размарын

½ ч.л. сушанага чабору

Часнок

**Спосаб гатавання**

Падрыхтоўка: 20 хвілін.
Прыгатаванне: 3 гадзіны.

1. Пагрэйце духоўку да 170 градусаў.

2. У місцы змяшайце соль, перац, маяран, размарын. Натрыце мяса гэтай сумессю са спецый. Зрабіце 16 глыбокіх надрэзаў у бараніне. У кожны ўкладзіце чабор і зубок часнаку. Пакіньце на 1-1,5 гадзіны.

3. Пакладзіце бараніну тлушчам уверх у неглыбокую бляху, каб абсмажыць. Ахініце фольгай.

4. Запякайце бараніну ў разагрэтай духоўцы 2 гадзіны. У канцы гатавання фольгу можна расхінуць, ножка крыху падпячэцца.





**Як дабіцца, каб і ваўкі былі сытыя, і авечкі цэлыя**

ў нашых, беларускіх умовах? — запыталіся мы ў блогера Яўгена Ліпковіча.

Ліпковіч: «Наконт таго, што ўзяты курс на авечкагадоўлю, магу сказаць: чым бы дзіця не цешылася, абы не зацяжарыла».

**Пастрыгчы авечку фермеру каштуе 25 тысяч, прадаць воўну можна толькі за 7 тысяч »**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тайс кажа, што спачатку з авечкамі былі праблемы. Папершае, прыродныя ўмовы не тыя. «У Афрыцы яны цэлы год на вуліцы ходзяць», — расказвае фермер.

Незнаёмымі былі і мясцовыя хваробы авечак. Ён не ўяўляе, каб авечкі гадаваліся ў калгасах.

«Авечкі патрабуюць дбайнага гаспадара, які іх любіць, усё робіць у час. Таму я не магу ўявіць, што гэты занятак падыходзіць для калгасаў. Уважлівы чалавек адразу адчуе, у якой авечкі нешта не так. Калі людзі абыякавыя, могуць быць вялікія страты», — кажа Тайс, які дагэтуль гаворыць з вялікім акцэнтам.

Тэрон спрабаваў займацца воўнай. «Ёсць заводы ў Смілавічах пад Мінскам, у Радашкавічах і ў Жабінцы», — кажа фермер. Але пакуль гэты занятак сябе не апраўдаў.

У гаспадарцы «Дваранская сядзіба», што ў Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці, таксама лічаць, што гадаваць авечак выгадна толькі на мяса.

Зараз галоўная праблема авечкагадоўлі — куды збыць скуру ды воўну. Па словах фермера, пастрыгчы авечку яму каштуе 25 тысяч, прадаць воўну можна толькі за 7 тысяч. Таму скуры даводзіцца спальваць. А, напрыклад, для авечкі раманаўскай пароды амаль 50% кошту павінна складаць скура.

«Хай бы хоць невялікае прадпрыемства па вычынцы пабудавалі. Быў бы попыт, народ бы кажухі сабе шыў», — кажа фермер Мікалай.

Яшчэ адна праблема — дзе набыць авечак для атрымання прыплоду. Калі баранчыкаў яшчэ прадаюць, то з жаночымі асобінамі ёсць цяжкасці.

«Што да выбару бараніны, то дакладна не прагадае той, хто паказвае пальчыкам на жывога баранчыка ў статку», — смяецца фермер. Мяса павінна быць свежым, астатняе — справа густу. Беларусы аддаюць перавагу маладым, а каўказцы просяць трохгадовых бараноў, з выразным смакам.

**Аксана Рудовіч**

## Сціслa

**Даплата бюджэтнікам**

Ад 1 мая тарыфная стаўка першага разраду вырасце на 5%.

**Падземны цэнтр пад Кальварыйскай**

Гандлёвыя тэрыторыі пад вуліцай Кальварыйскай у Мінску пачалі будаваць у сярэдзіне 1990-х, аднак праз незапатрабаванасць іх закансервавалі. Цяпер інвестар знайшоўся. Уладальнік ГЦ «Тытан» Віталь Сініцкі выкупіў аб'ект за 10 мільярдаў рублёў. Мяркуецца, што пад скрыжаваннем Кальварыйскай і Цімірязева адкрыецца мэблевы салон ці крама тэхнікі.

**«Белавію» могуць прадаць «Аэрафлоту»**

Пра гэта заявіў міністр транспарту Беларусі Іван Шчэрба.

**Чавэс абвергт паведамленне пра сваю смерць**

Для гэтага ён з Гаваны патэлефанаваў да дзяржаўнае ТБ. Чуткі пра смерць Чавэса пачалі распаўсюджвацца пасля таго, як прэзідэнт Венесуэлы тыдзень не з'яўляўся на публіцы. Звычайна ён не пакідаў экранаў тэлебачання. Чавэс працягвае курс хіміятэрапіі, у яго рэцыдыў анкалогіі.

**Памёр архіепіскап Арыстарх**

70-гадовы ўладыка Гомельскі і Жлобінскі пайшоў з жыцця ад сардэчнага прыступу.

**Яшчэ адзін гатэль у Мінску**

мае паўстаць на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Ляшчынскага побач са станцыяй метро «Кунцаўшчына». Пабудуюць яго чэхі, будзе ён 16-павярховы. У ім спалучацца гасцявыя і офісныя паверхі, казіно і рэстаран.

**ЯМ, СГ**

## Сярэдні заробак на Салігоршчыне — 5,91 мільёна рублёў

А менш за ўсё зарабляюць у Кармянскім і Столінскім раёнах.

Белстат апублікаваў дадзеныя аб сярэдніх заробках у раёнах Беларусі за студзень-люты 2012 года. Больш за ўсё зараблялі ў Салігорскім раёне. У тамтэйшых жыхароў у сярэднім заробак складаў 5,91 мільёна рублёў. У тройку прызёраў таксама трапілі Рагачоўскі (3,79 мільёна) і Жлобінскі (3,69 мільёна). Акрамя таго, больш за 3 мільёны рублёў зараблялі ў Мазырскім, Светлагорскім і Мінскім раёнах. Як вынікае са справаздачы, на Брэстчыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне ніводзін з раёнаў гэтую мяжу не пераадолеў.

Шмат зарабляюць і ў гарадах абласнога падпарадкавання. У Наваполацку (3,85 мільёна) і Жодзіне (3,74 мільёна) зарабляюць нават больш, чым у Мінску (3,73 мільёна).

Сярод аўтсайдараў — Кармянскі (1,93 мільёна), Столінскі (1,94 мільёна) і Слаўгарадскі раёны (1,96 мільёна). Аднак меркаваць пра беднасць сталіцаў наўрата — прыватны агурковы бізнэс дазваляе ім не трапляць у статыстыку Белстата.

Менш за 2 мільёны рублёў зараблялі яшчэ ў Шаркаўшчынскім, Лоеўскім, Мсціслаўскім, Карэліцкім, Свіс-лацкім і Ганцавіцкім раёнах.

**ЯМ**



## Расійскія журналісты шукаюць матэрыялы для фільма аб раскулачванні

Здымае фільм Аляксей Півавараў.

Стужка будзе называцца «Серп і Молах». Рыхтуе яе Аляксей Півавараў, вядомы журналіст і дакументаліст з НТВ.

«Нам патрэбная дапамога тых, чые сваякі былі раскулачаныя і хто захаваў сямейныя фотаздымкі, — звяртаецца Півавараў. — Гэтыя здымкі мы выкарыстаем у фільме. Дасылайце іх з кароткім апісаннем: хто на іх, што здарылася з гэтымі людзьмі, дзе яны былі раскулачаныя і як склаўся іхні лёс».

Аляксей Півавараў стварыў некалькі дакументальных фільмаў пра гісторыю XX стагоддзя. Сярод іх — «Брэст. Крэпасныя героі», «Ржэў. Невядомая бітва Георгія Жукава», «Другая ўдарная. Здраджаная армія Уласава».

За 20-я і 30-я гады ў Беларусі былі «раскулачаныя» да 250 тысяч чалавек. Прыкладна трэцяя частка з іх загінула.

**АЧ**

**Дасылаць здымкі можна па пошце на адрас: 127427 Ул.Академика Королева, 12. НТВ для проекта «Серп и Молох». Адсканаваныя фоты можна дасылаць на kolhoz@ntv.ru**

**Дзе варта быць**

## Віталь Стахіевіч

3 мая. 19.00. Вялікая канцэртная зала Філармоніі.
Пракоф'еў, Санаты №1, 5.
Брамс. 4 п'есы для фартэпіяна, op.119.
Шуберт. Саната до мінор, D.958

**Самае чытанае за 18—24 красавіка**

1. Новая зорка байнэту: «Я із деревні. Даёш працветание, стабільнасць, ёў-ёў» — відэа
2. Скарлет Ёхансан прызналася ў сваім беларускім паходжанні
3. Школьніца: Відэакліп «Я із деревні!» — гэта кпіна з патрыётаў
4. Па Мінску пусцяць аўтобус з выявай Сталіна
5. Вузкаплечыя «памочнікі спецназа» — фотафакт
6. Прыгожа маўчыш па-беларуску?
7. Фашысты ў электрычцы
8. Памерла маці Зянона Пазняка
9. Беларускія карыстальнікі «Укантакце» выкрываюць педафілаў
10. На Гродзеншчыне адбылася VIP-аварыя

# Улады дазволілі «Чарнобыльскі шлях» у поўным аб'ёме

Арганізатары маюць намер правесці акцыю **пад знакам пратэсту** супраць Астравецкай АЭС.

Сёлета ў аргкамітэт «Чарнобыльскага шляха» ўвайшлі прадстаўнікі розных палітычных сілаў — БНФ, «Малады фронт», БХД, зялёныя. Узначаліў аргкамітэт прафесар фізікі Юры Хадыка.

Акцыя традыцыйна пройдзе 26 красавіка — у дзень угодак катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Паколькі гэта будзе працоўны дзень — чацвер, — пачатак збору запланаваны а 18.00 на пляцоўцы ля Акадэміі навук. Шэсце рушыць праз паўгадзіны. Ісці дэманстранты будуць вуліцай Сурганава да Чарнобыльскай капліцы, што ля Парку дружбы народаў, там традыцыйна і адбудзецца жалобны мітынг.

Галоўнай тэмай «Чарнобыльскага шляха» сёлета стане патрабаванне адмены будаўніцтва Астравецкай АЭС. Але будуць уздымацца і іншыя актуальныя пытанні. Напрыклад, палітвязняў. Мінгарвыканкам першкод арганізатарам чыніць не стаў, як і з Днём Волі, усе пункты заяўнікаў былі задаволеныя.

Праўда, перад акцыяй прайшлі затрыманні маладафронтаўцаў. На 10 сутак асуджаная Наста Шулейка, на Акрэціна Павел Сяргей. У Касі Галіцкай дома прайшоўператрус. Відаць, зачапілі маладафронтаўскія дэматыватары на Дзень Волі.

Калі верыць прагнозу надвор'я, то ў гэты дзень у Мінску чакаецца да +19.

«Чарнобыльскі шлях» праводзіцца штогод ад 1988.

**Зміцер Панкавец**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Занадта ліберальнае і занадта жорсткае

Лукашэнка перанёс **пасланне парламенту і народу** «на няпэўны тэрмін».

Першапачаткова планавалася, што зварот Лукашэнкі будзе агучаны 19 красавіка. Аднак за два дні да гэтага прэс-служба кіраўніка краіны паведаміла, што праца над дакументам працягваецца.

У прыватнасці, адзначалася, што Лукашэнку не спадабалася занадта ліберальная пазіцыя адносна прыватызацыі маёмасці і надта жорсткая па ўзаемадачыненнях з Захадам. «Лукашэнка выказаўся супраць залішне жорсткіх мер рэагавання на праблемы ва ўзаемаадносінах Беларусі са сваімі партнёрамі», — паведаміла ягоная прэс-служба.

Калі такія заявы можна было б разглядаць як прымірэнчыя, то на суботніку ў аквапарку Лукашэнка зноў быў ваяўнічы. Яму давялося адказваць на пытанні аб вызваленні Саннікава і Бандарэнкі.

«Не напісалі б прашэння аб памілаванні — сядзелі б да гэтага часу, і тыя, хто там застаўся і не напісаў гэты зварот на імя прэзідэнта, будуць сядзець. Вось і ўсё. Ніхто на мяне тут не націсне», — сказаў ён.

Пры гэтым Лукашэнка папярэдзіў: «Яшчэ адзін ціск — і тыя балбатуны, якія выйшлі на свабоду і павінны сказаць дзякуй, што з імі так абышліся, могуць вярнуцца зноў у калонію».

«Вось яны зараз кажуць: націснулі, таму паслоў упусцілі. Мы, наадварот, паслам сказалі: хлопцы, вы паехалі, пабудзьце там, паслы сёння выказалі пажаданне вярнуцца сюды. Але трэба ж перакруціць сітуацыю, каб нібыта захаваць твар», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Польскі аналітык Войцэх Бародзіч-Смалінскі мяркуе, што вызваленне двух палітвязняў — гэта «спроба запрасіць Еўрасаюз у гульню, якую ЕС ужо ведае і якая была ад 2008 да 2010».

Тым не менш, на пасяджэнні Рады ЕС, што прайшла 23 красавіка ў Люксембургу, пытанне пашырэння санкцый не ўздымалася. Паслы ж могуць вярнуцца ў Мінск ужо на гэтым тыдні.

**ЗП**

## Памілаванага дырэктара МАЗа ўзнагародзілі ордэнам Пашаны

Яшчэ чатыры гады таму Аляксандр Бароўскі быў асуджаны за службовыя злоўжыванні на пяць гадоў турмы.

Тады Бароўскі быў старшынёй канцэрна «Белнафтахім». ААТ «Нафтан» звярталася на судзе з іскам, каб сплаціў больш за 3 мільярды рублёў, аднак гэты пункт быў пакінуты без задавальнення.

З бабруйскай турмы Бароўскі выйшаў у снежні 2008. Паводле рашэння суда, цягам трох гадоў па вызваленні ён не мог займаць кіраўнічыя пасады. Аднак роўна праз год памілаваны Бароўскі стаў генеральным дырэктарам адкрытага акцыянернага таварыства «Мінскі аўтамабільны завод».




Выглядае, што на новым месцы працы Бароўскім задаволеныя, калі Лукашэнка ўзнагародзіў ордэнам. Афіцыйная трактоўка гучыць так: «За шматгадовую плённую працу, дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў, вялікі асабісты ўнёсак ва ўдасканаленне прававой сістэмы краіны, узорнае выкананне службовых абавязкаў».

Гісторыя, як з фаварытаў лёгка трапіць у няласку і наадварот.

**ЗП**

**Каментары**

## Мала вызваліць, трэба рэабілітаваць

Прычым усіх **нявінных людзей**!

Вызваленне Андрэя Саннікава — гэта не акт міласэрнасці ў пасхальныя дні, гэта вынік калі не рашучай, дык даволі паслядоўнай палітыкі Еўрасаюза, якую ён вядзе пасля 19 снежня 2010.

Па-мойму, мінскія бюракраты дарма спадзяюцца, што пасля вызвалення Андрэя Саннікава напруга ў адносінах паміж Брусэлем і афіцыйным Мінскам спадзе. Напруга, магчыма, спала б, калі б адразу, у адзін дзень былі вызвалены таксама Мікалай Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Сяргей Каваленка і астатнія палітычныя вязні. Усе да аднаго!

У тым, што вызвалены Андрэй Саннікаў, праглядваецца спадзяванне мінскай бюракратыі ўсё ж патаргавацца з Брусэлем наконт іншых палітзняволеных. Аднак бюракраты забываюць, што мала вызваліць людзей з-за кратаў — іх трэба рэабілітаваць, каб і Саннікаў, і Статкевіч, і Бяляцкі, і іншыя маглі паўнацэнна вярнуцца ў палітыку.

**Анатоль Сідарэвіч**

## ЕС здыме санкцыі пасля вызвалення ўсіх палітвязняў

Такую пазіцыю выказаў міністр замежных справаў Швецыі **Карл Більт**.

«Мы патрабуем вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітвязняў. Мы задаволеныя тым, што былі вызваленыя Саннікаў і яго калега. Гэта мы можам толькі вітаць. Як з палітычнага, так і гуманітарнага гледзішча, мы будзем цвёрда патрабаваць вызвалення і рэабілітацыі палітвязняў.

Калі так станецца, калі ўсе палітвязні будуць вызваленыя, дык мы прыпынім санкцыі і вернемся да сітуацыі, якая была на пачатку снежня 2010. Гэта не значыць, што мы знімем усе праблемы. Сёлета ў Беларусі будуць парламенцкія выбары. Мы будзем заклікаць беларускія ўлады, каб яны запрасілі міжнародных назіральнікаў і правялі гэтыя выбары свабодна і справядліва. Гэтыя патрабаванні застануцца».

**Паводле радыё «Свабода»**

# Мікулаш Дзурында: Лукашэнка гуляў з намі, як з дзецьмі

У 1998 Мікулаш Дзурында стаў прэм'ер-міністрам Славакіі. На выбарых шырокая кааліцыя апазіцыйных партый (хрысціянскія дэмакраты, сацыял-дэмакраты, партыі венгерскай нацменшасці) змагла скінуць паўаўтарытарны папулісцкі рэжым Уладзіміра Мечыяра. Славацкі палітолаг Рыгор Мясежнікаў кажа, што ўрад Дзурынды рабіў надзвычай шмат для дапамогі барацьбе беларусаў за свабоду. Гутарка з былым прэм'ерам пра Беларусь і не толькі.




### Беларусы — еўрапейскі народ

**«Наша Ніва»: Як бы Вы акрэслілі сваю палітыку ў дачыненні Беларусі падчас прэм'ерства?**

**Мікулаш Дзурында:** Як прынцыповую. У нас добрае стаўленне да беларусаў. Я знаёмы з Мілінкевічам больш за 15 гадоў. На розных сустрэчах знаёміўся з іншымі беларусамі. Вы маеце вельмі добрую біятланістку [смяецца — «НН»]. Тое, што беларусы — еўрапейскі народ, — гэта без пытанняў. Але на іншым баку ёсць рэжым. Мы, славакі, добра разумеем, што гэта значыць. Я 34 гады жыў у такім самым рэжыме. Я сам стаў чыгуначнікам, бо не мог разлічваць на кар'еру пры тым рэжыме. Толькі цвёрдая і жорсткая стратэгія супраць Лукашэнкі можа прывесці краіну да палітычнай свабоды.

**«НН»: У якасці міністра замежных справаў Вы неаднаразова ўдзельнічалі ў пасяджэннях Рады Еўропы, дзе абмяркоўвалася еўрапейская палітыка да Беларусі.**

**МД:** На пасяджэнні 23 сакавіка мяне не было, прысутнічаў мой намеснік. На папярэдніх я прысутнічаў, казаў пра цвёрдыя санкцыі. Мы не можам караць правай рукой, а левай даваць грошы Міжнароднага валютнага фонду.

### Танны трук Младзенава

**«НН»: Як міністры ЕС паставіліся да ўчынку балгарскага міністра Младзенава, які вёў таемныя перамовы з Лукашэнкам?**

**МД:** Младзенаў нас толькі праінфармаваў. Ніхто не ўспрымаў гэта ўсур'ёз. Гэта быў танны трук.

**«НН»: Сёння трэба працягваць палітыку санкцый ці іх здымаць?**

**МД:** Не-не, толькі працягваць ціск. Сітуацыя ў беларусаў крыху іншая, чым была ў нас у Чэхаславаччыне. Але я сыходжу з меркавання, што большасць беларусаў хоча жыць у свабодзе. Калі маё мысленне правільнае, то мы не можам саступаць. Я жыў у Чэхаславаччыне і цудоўна разумеў, што толькі жорсткая пазіцыя ЗША і выйгрыш у «халоднай вайне» можа нас вызваліць.

**«НН»: А ці не набліжаюць санкцыі Беларусь да Расіі? Пра гэта кажа частка беларускіх палітыкаў.**

**МД:** Гэта ў руках беларускага народа. У сакавіку 1989-га людзі ў Браціславе зладзілі дэманстрацыю са свечкамі. У Празе студэнты зрабілі «Аксамітную рэвалюцыю». Егіпцяне ў Каіры зладзілі плошчу Тахрыр. Усё ў вашых руках. Мы можам зрабіць многае, але не ўсё. Я цудоўна разумею тыя рэчы, якія казала Наста Палажанка, калі прыязджала сюды. Гэта не ў руках Лукашэнкі.

### Патэлефанаваў і сказаў: «Вяртайся»

**«НН»: А ці разумеюць еўрапейскія палітыкі Лукашэнку?**

**МД:** У апошнія два гады, мне здаецца, пачалі разумець. Да гэтага — не. Лукашэнка гуляў з намі, як з маленькімі дзецьмі. І толькі цяпер мы зразумелі, што болей так нельга. Цяпер былі дыскусіі, ці мы дадамо ў «чорны спіс» дзве фірмы ці тры. Для мяне гэта было смешна. Я веру, што час, калі мы павінны быць цвёрдымі і жорсткімі, ужо прыйшоў. Важна, што вялікая колькасць маладых людзей маюць магчымасць выязджаць у краіны ЕС.

**«НН»: Ці не зневажае Вас, калі Лукашэнка абразліва выказваецца пра еўрапейскіх палітыкаў?**

**МД:** Палітык не можа ўражвацца словамі. І гэта словы — проста словы, яны мяне не кранаюць і не зневажаюць. Мяне зневажае тое, што жаніх Насты Палажанкі сядзіць за кратамі. Вось гэта мяне зневажае, а астатняе — словы.

**«НН»: Вы былі кіраўніком славацкага МЗС, калі пачаўся дыпламатычны скандал з Беларуссю.**

**МД:** Я патэлефанаваў свайму паслу і сказаў яму: «Вяртайся». Добра, што было адзінства. Я палітык, а не дыпламат. Маё бачанне простае: Беларусь патрэбная Еўропе, як патрэбная і Украіна. Мы павінны дапамагаць беларускім недзяржаўным арганізацыям, студэнтам, што не могуць вучыцца ў Беларусі. У мяне зараз больш часу, дык я хачу наведаць Мінск.

**«НН»: Пасля такога інтэрв'ю могуць не пусціць.**

**МД:** Паеду на ровары [смяецца].

**«НН»: Вы прыклалі руку, каб Славакія вылучыла Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію?**

**МД:** Гэта прэм'ерка Івета Радзічава. Я цяпер раблю ўсё, каб у Мінску не было Чэмпіянату свету па хакеі. Адзін з маіх сяброў — хакеіст Шцястны [г.зн. Шчасны, па-славацку]. Мы не павінны прыкрывацца тым, што Мінск далёка і гэта нам нецікава.

### Мечыяр быў блізка

**«НН»: У 1990-я Мечыяр меў шанцы ператварыцца ў славацкага Лукашэнку?**

**МД:** Канечне, ён быў блізкі да гэтага. У 1995 таемная служба Мечыяра выкрала сына прэзідэнта Міхала Ковача, так думае ўся Славакія. Мая кампанія 1998 таксама не была лёгкай.

**«НН»: Людзі галасавалі за Вас ці супраць Мечыяра?**

**МД:** І тое, і другое. Я даваў ясную альтэрнатыву. Венгры, чэхі, палякі далучаліся да НАТА. І я сказаў, што мы іх дагонім. І мы дагналі і перагналі. Толькі ў нас ёсць еўра.

**«НН»: Дык які рэцэпт перамогі над палітыкамі-папулістамі?**

**МД:** Каб мне сёння сам хто падказаў [смяецца; партыя Дзурынды прайграла выбары славацкаму сацыялісту-папулісту Фіца — праўда, гэта палітык без дыктатарскіх замашак]. Трэба мець агульнае бачанне сітуацыі. І павінна быць шанцаванне на лідараў, якія больш думаюць пра краіну, чым пра свой дабрабыт.

**«НН»: Як у 1998-м славацкай апазіцыі ўдалося аб'яднацца?**

**МД:** Зноў пытанне агульнай еўрапейскай будучыні. Чым яснейшае агульнае пасланне, тым прасцей. Гэтая тэма сёння можа быць актуальная і для іншых краін: Босніі, Сербіі, Украіны, Малдовы, Беларусі. У Еўрасаюза ёсць праблемы, але ён іх вырашыць.

### Час лечыць

**«НН»: Пры Вас у Славакіі адбываліся рашучыя рэформы. Гэта заўсёдная пагроза стаць нелюбімым кіраўніком дзяржавы.**

**МД:** Страшна не было, але і лёгка таксама. Я разумею, што гэта трэба рабіць. Месяц назад славацкія газеты пісалі, што я ўпусціў момант, калі славакі маглі мне паставіць помнік памерам, як Ленін у Мінску. Калі б я сышоў у патрэбны час.

**«НН»: Вялікай праблемай была мечыяраўская прыватызацыя. Як потым вырашалася гэтае пытанне?**

**МД:** Рэпрыватызацыя. Ён прыватызоўваў кепска, але па законе. Людзі набывалі прадпрыемствы за адну крону. Але як кажуць: лёгка прыйшло — лёгка сышло. Гэтыя прадпрыемствы станавіліся банкрутамі. Мы шукалі інвестараў, якія б маглі набыць гэтыя заводы. Мы стварылі многа добрых законаў, каб палепшаў інвестыцыйны клімат. Калі я стаў прэм'ерам, то падаткі былі 42% для інвестараў, калі скончаў — 19%.

**«НН»: Сёння вы паціскаеце Мечыяру руку пры сустрэчы?**

**МД:** Так. Час добра лечыць.

**Гутарыў Зміцер Панкавец, Браціслава — Мінск**

---

**Мікулаш Дзурында**

Нарадзіўся ў 1955 у вёсцы Спішскі Штрврток. Прэм'ер-міністр Славакіі з 1998 да 2006, в. а. прэзідэнта Славакіі з 1998 да 1999.

У 1990 стаў адным з заснавальнікаў кансерватыўнага Славацкага дэмакратычнага руху. У 1991 — намеснік міністра транспарту, тэлекамунікацый і пошты. Пасля прыходу да ўлады Мечыяра перайшоў у апазіцыю.

У 2000 арганізаваў партыю Славацкі дэмакратычны і хрысціянскі саюз. З 2010 па 2012 займаў пасаду міністра замежных спраў ва ўрадзе Іветы Радзічавай.

---

## Foreign Policy: Найлепшае выйсце для Лукашэнкі — шукаць прытулку ў Маскве

«Свабодная Беларусь хацела б такой жа замежнай і эканамічнай палітыкі, як у Казахстане».

«Адзін з найвялікшых герояў нашага часу, Андрэй Саннікаў, галоўны апанент Аляксандра Лукашэнкі на выбарах у Беларусі ў снежні 2010 года, быў кінуты за краты па сфабрыкаваных абвінавачаннях, а ў мінулую суботу быў вызвалены, — піша Дэніэл Рундэ ў блогу Foreign Policy. — ЗША і Еўропа захоўваюць санкцыі супраць Беларусі ўжо некалькі гадоў. Магчыма, Лукашэнка выкарыстоўвае вызваленне Саннікава як манеўр, накіраваны на зняцце санкцый», — мяркуе аўтар.

«Лукашэнка кіруе краінай як марыянеткавай дзяржавай, выходзячы з самых нізкіх інстынктаў і прымхаў Уладзіміра Пуціна», — сцвярджае Рундэ. На думку аўтара, «свабодная Беларусь, верагодна, хацела б такой жа замежнай і эканамічнай палітыкі, як у Казахстане, — з магчымасцю ўступаць ва ўзаемадзеянне і свабодна балансаваць паміж Еўропай, ЗША і Расіяй, а не функцыянаваць як даччынае прадпрыемства ў поўнай уласнасці Расіі».

У сярэднетэрміновай перспектыве найлепшым зыходам для Лукашэнкі было б не балатавацца яшчэ на адзін тэрмін у 2015 годзе, а шукаць прытулку ў Маскве, дазволіўшы правесці дэмакратычныя выбары ў Беларусі, заключае журналіст.

**Паводле foreignpolicy.com**

# Каму належаць прадуктовыя крамы?

**«Еўраопт», «Родная старонка» і «Рублёўскі»** б'юцца за долю на рынку Беларусі.

У сферы рознічнага продажу ці, як цяпер модна казаць, рэтэйлу, ідзе працаваць усё больш беларусаў. Тыя, хто, не маючы адукацыі, раней ішоў у кандуктары ці прадаўцы латарэйных білетаў, усё часцей абіраюць працу ў супермаркетах. Некалькі месяцаў навучання — і яны касіры ці прадаўцы з заробкам ад 2,5-3 мільёны рублёў. І вакансіі ўсё адно застаюцца!

Еўрапейскія карпарацыі пакуль яшчэ не дайшлі да Беларусі. Праўда, французская Carrefour і літоўская Maxima ўжо заявілі пра свае планы. Але канкурэнцыі хапае і без іх. Рэтэйлавыя сеткі беларускіх бізнэсоўцаў б'юцца за спажыўца — гадавы зварот гігантаў перавышае $200—300 мільёнаў. Хто з іх дасягнуў найбольшых поспехаў?

Найбуйнейшай сеткай крамаў краіны можна лічыць Белкаапсаюз — больш за 10 тысяч аб'ектаў, большасць з якіх раскіданая ў вёсках. Яго дзейнасць рэгулюецца дзяржавай. Несучы «сацыяльную нагрузку», арганізацыя не можа спаборнічаць з канкурэнтамі ні па асартыменце, ні па прыбытковасці. У гэтую катэгорыю можна аднесці і больш за 150 крамаў Беларускай чыгункі пад брэндам «ДарОрс».

### Бізнэс з эміграцыі

Што да чыстых прыватнікаў, то больш за ўсё крамаў мае «Еўраопт» (ААТ «Еўрагандаль»). У навіныя стужкі гэтая сетка трапіла на мінулым тыдні, калі яе ўласнікі выкупілі сталічны ўніверсам «Нарач». Цяпер ён будзе працаваць пад жоўта-сіняй шыльдай «Еўраопта», як і 78 іншых крамаў па ўсёй Беларусі. 19 з іх адкрытыя ў сталіцы.

Прадукты ў іх таннейшыя, чым у канкурэнтаў, праўда, часам коштам камфорту кліентаў.

Рынкавыя дасягненні «Еўраопта» пастаянна выкарыстоўваюць дзяржаўныя прапагандысты. Пра паказальнае змяншэнне цэнаў у прыватных крамах паведамляе нават БелТА. А дырэктар кампаніі Андрэй Зубкоў заяўляў, што мінімальны заробак касіраў складае 3,5 мільёна рублёў, але можа дасягаць нават 8 мільёнаў. У кампаніі працуе ўжо больш за 8000 супрацоўнікаў, і іх колькасць будзе расці — у планах адкрыццё як мінімум 50 крамаў ва ўсёй краіне.

«Еўрагандаль» кантралююць бізнэсоўцы Сяргей Літвін і Уладзімір Васілька. Іх прыклад — адно са сведчанняў таго, што любіць радзіму лепш з адлегласці. Эміграваўшы ў 2003 годзе, яны не спяшаюцца вяртацца ў Беларусь. Не дапамаглі ў гэтым нават запыты беларускіх уладаў аб экстрадыцыі бізнэсоўцаў. Цяпер яны жывуць у Вільні, з'яўляючыся таксама акцыянерамі Мінскага завода вінаградных вінаў і Мінскага млынкамбіната.

### Палеская сетка



Мікалай Лагун.

Другая па велічыні сетка краіны — «Родная старонка» (ААТ «НТС»). Ва ўсёй краіне налічваецца 50 крамаў. Праўда, гэтае ж акцыянернае таварыства кіруе яшчэ і сеткай «Кошык» (17 крамаў), а таксама 14 «безназоўнымі» крамамі ў Баранавічах. Летась рэтэйл прынёс кампаніі больш за $200 мільёнаў.

Уласнікі крамаў — беларус Ігар Чарняўскі і ўкраінец Мікалай Лагун. Першы пачынаў імпартам кансерваў і алкаголю. А вось уласнасць апошняга ацэньваецца сумай $100 мільёнаў. Ён валодае 99,9% «Дэльта-Банка» і страхавой кампаніяй.

«Цэнтр» сеткі знаходзіцца ў Гомелі, але, апроч таго, «НТС» — галоўны гулец на рэтэйлевым рынку Мазыра, Бабруйска і Брэста. Дарэчы, як і кіраўніцтва «Еўраопта», Чарняўскі і Лагун скупляюць мінскія ўніверсамы — «Паўночны» і «Гродна».

### З міжнароднай дапамогай



Сяргей Ткачук.

Сетка «Рублёўскі» сканцэнтраваная ў Мінску. Тут знаходзіцца 34 з 38 крамаў з такой назвай. Выпускнік маскоўскай школы КДБ Сяргей Ткачук і яго кампаньён Аляксей Лойка ўзначальваюць холдынг RTL-Holding, куды, апроч «Рублёўскіх», уваходзіць невялікая сетка крамаў, некалькі лагістычных кампаній і імпарцёры харчавання. Паводле інфармацыі «Ежедневніка», Ткачук таксама валодае акцыямі мінскіх універсамаў «Цэнтральны» і «Першамайскі». Некалькі гадоў таму да развіцця сеткі спрычынілася Міжнародная фінансавая карпарацыя, якая выдала бізнэсоўцам крэдыт больш чым на $20 мільёнаў.

Тая ж арганізацыя дапамагла $16 мільёнамі і «Альфа-Групе», калі тая засноўвала сетку «БелМаркет». Расійская карпарацыя на чале з алігархам Міхаілам Фрыдманам мае шматмільярдны зварот сваіх падраздзяленняў — ад нафтагазавай ТНК да гандлёвых сетак «Пяцёрачка», мабільных аператараў і банкаў. 13 з 29 беларускіх крамаў «Белмаркета» знаходзяцца ў Магілёве.




Гіпермаркеты і сеткавыя крамы патроху выціскаюць з рынку рынкі.

| Прадуктовыя сеткі | Уласнік | Колькасць крамаў | Асноўныя гарады працы |
|---|---|---|---|
| Еўраопт | Сяргей Літвін, Уладзімір Васілька | 79 | Мінск, Гродна, Бабруйск |
| Родная старонка | Ігар Чарняўскі, Мікалай Лагун (Украіна) | 50 | Гомель, Бабруйск |
| Рублёўскі | Сяргей Ткачук, Аляксей Лойка | 38 | Мінск |
| Санта | Аляксандр Машэнскі | >30 | Брэст |
| Белмаркет | Міхаіл Фрыдман (Расія) | 29 | Магілёў |
| Віталюр | Аляксандр Яцук | 27 | Мінск |
| Алмі | Аляксандр Зарыбка | 25 | Мінск, Гродна |
| Суседзі | Алма Яўнцэмене (Літва) | 19 | Мінск |
| Гіпа | Алег Бараноўскі | 9 | Мінск |
| Прастор | Юрый Чыж | >4 | Мінск, Гродна |
| Карона | Павел Тапузідзіс | 4 | Мінск, Брэст |
| Прэстан | Віталь Арбузаў | 3 | Мінск |

### Рыбныя флагманы

Свае прадуктовыя сеткі маюць і тры рыбныя мільянеры: уласнік «Віталюра» Аляксандр Яцук, генеральны дырэктар «Белвілесдэна» (крамы «Гіпа») Алег Бараноўскі і іх брэсцкі канкурэнт Аляксандр Машэнскі, уладальнік «Санта-Брэмара» і «Савушкавага прадукта». Пра апошняга з іх «Наша Ніва» падрабязна пісала ў №8 за 29 лютага 2012 года, нагадаем толькі пра яго некалькі дзясяткаў крамаў, большасць з якіх знаходзяцца ў Брэсце.

Алег Бараноўскі з'яўляецца дырэктарам англійскай кампаніі «Белвілесбадэн». Раней яна была адным з найбуйнейшых імпарцёраў рыбы, аднак цяпер яе асноўны профіль — крамы. У склад сеткі ўваходзяць пяць гіпермаркетаў «Гіпа» (тры з іх у Мінску), а таксама чатыры супермаркеты.

Выпускнік Інстытута фізкультуры «віталюравец» Аляксандр Яцук таксама мае статус спецімпарцёра рыбы і морапрадуктаў, і, як і Машэнскі, рэалізуе прадукцыю праз сетку ўласных крамаў. Іх у Мінску налічваецца ўжо 24, яшчэ тры знаходзяцца па-за межамі сталіцы. Беларускім спартыўным заўзятарам Яцук запомніўся як спонсар баскетбольнай мужчынскай каманды «Віталюр», якая чатыры раз запар выйгравала чэмпіянат Беларусі.

### Пінчук у Расіі



Аляксандр Зарыбка.

Спартыўную маладосць узгадвае і мільянер Аляксандр Міхайлавіч Зарыбка. Ягонае імя па бацьку ўказанае нездарма, бо менавіта яно, разам са скарочаным імем, дала назву ягоным 25 крамам «Алмі». Апроч таго, ён валодае дзвюма крамамі «Закрама». Гіпермаркет з іх усіх пакуль што толькі адзін, ён знаходзіцца ў Гродне. Неўзабаве пачнецца будаўніцтва вялікай крамы ў Мінску, на месцы стаянкі каля станцыі метро «Каменная Горка».

Зарыбка нарадзіўся ў Пінску, але зрабіў бізнэс у Расіі. Яму належыць каля 33% акцый групы кампаній «Вікторыя», якая кантралюе некалькі сотняў крамаў ва ўсёй Расіі: «Квартал», «Вікторыя», «Танна», «Кэш» і «Сямейная скарбонка». Пінская маладосць нагадала пра сябе, калі мільянер вырашыў прафінансаваць стварэнне футбольнай акадэміі ў сваім родным горадзе.

Апошні раз Зарыбка трапляў у прэсу ў жніўні 2011 года, пасля таго як, знаходзячыся ў Маскоўскай вобласці за стырном «Мерсэдэса», пры перастраенні зачапіў матацыкл. 24-гадовы матацыкліст загінуў на месцы...

Дзяржаўная палітыка выбудаваная такім чынам, каб дапамагаць супермаркетам выцясняць рынкі, паслугамі якіх беларусы карысталіся ў 1990-я і 2000-я. Укладаючы ў развіццё сваіх сетак, бізнэсоўцы робяць перспектыўныя інвестыцыі. З прыходам у краіну міжнародных карпарацый гэтыя сеткі могуць быць прададзеныя заходнікам за сотні мільёнаў даляраў.

**Ягор Марціновіч**

# У Мінску хочуць запусціць «сталінобус»

Сталічныя ўлады пра ініцыятыву **даведаліся з інтэрнэту**.




Сталіністы плануюць запусціць да Дня Перамогі ў 40 гарадах краін СНД аўтобусы з выявай Іосіфа Сталіна. Сінхронны выезд запланаваны на 6 мая. Пра гэта паведаміў аўтар праекта «Аўтобус Перамогі» Віктар Логінаў.

Яны шукалі прыхільнікаў і ў Мінску. Паводле арганізатараў, «іх чалавек у сталіцы Беларусі спрабуе дамовіцца з мясцовымі ўладамі». Вынік будзе вядомы пры канцы красавіка. Пакуль няясна, з кім канкрэтна дамаўляюцца.

Журналісты звярнуліся ў Мінгарвыканкам, аднак там пра ініцыятыву не ведаюць. Пра намер пусціць у Мінску «сталінобус» даведаліся з інтэрнэту.

Высветлілася, што для атрымання дазволу на падобнае афармленне аўтобуса патрэбны час і набор дакументаў, у тым ліку і дазвол ДАІ. Паводле ідэалагічнага ўпраўлення Мінгарвыканкама, заяўкі ім ніхто не падаваў, а на яе зацвярджэнне трэба 15 дзён.

Першы «сталінобус» выйшаў у Пецярбургу вясной 2010-га. Сёлетняя спроба мінскіх сталіністаў не першая. У мінулым лістападзе яны нават сабралі грошы на свой «сталінобус», але ён так і не выехаў на вуліцы Мінска.

Акцыя сталіністаў паўсюль выклікае грамадскі пратэст. У лістападзе 2011-га ў Севастопалі «сталінобус» так і не выйшаў на маршрут, а яго кіроўцу звольнілі з працы. Грамадскі камітэт па ўшанаванні памяці ахвяр Галадамору 1932—1933 гадоў выступіў з калектыўным асуджэннем самой ідэі падобных заездаў. Забаранілі такое глумленне над памяццю ахвяр сталінізму і ўлады Сталіна.

У адной Беларусі рэпрэсавана было 600 тысяч чалавек, 200 тысяч з іх загінула.

**Сямён Печанко**

**Калі вы супраць «сталінобуса»** ў Мінску, можаце звярнуцца ў Мінгарвыканкам праз пошту або праз сайт установы. Адрас: 220030, Мінск, пр.Незалежнасці, 8. Бланк электроннага звароту знаходзіцца на старонцы http://minsk.gov.by/ru/feedback.

# Беларускія карыстальнікі «Вконтакте» выкрываюць педафілаў

**І выкладаюць відэа** размовы з імі ў інтэрнэт.

«Паляўнічыя» на педафілаў ствараюць на сайце знаёмстваў анкету дзяўчынкі/хлопчыка 12—14 гадоў. І чакаюць прапановаў сустрэчы для сэксу, пры гэтым акцэнтуючы ўзрост. Калі перапіска з непрыстойнымі прапановамі працягваецца, то дамаўляюцца на сустрэчу. Аднак замест чаканай «лаліты» педафілаў чакаюць дужыя хлопцы.




«Мы прыходзім, каб расчараваць педафіла і крыху з ім пагутарыць», — заяўляюць стваральнікі суполкі «Стоп Выблюдкі».

Пры гэтым падкрэсліваюць, што ў дачыненні да патэнцыйнага нягодніка гвалт не ўжываецца. «Мы адно здымаем сустрэчы на відэа, патрабуючы прызнанняў і прабачэнняў».

На дадзены момант у суполцы ёсць 3 такія відэазапісы.

На ўсіх — мужчыны 35—40 гадоў. Аднаго «кліента» ўжо распазналі, указалі яго імя і прозвішча. Яшчэ адзін аказаўся былым «афганцам» (паказаў сваё пасведчанне). Ён, дарэчы, выбачыўся і нават «падзякаваў, што мазгі ўправілі», расказвае мадэратар суполкі, зарэгістраваны пад нікам «Стоп Выблюдкі».

Гэта ён першым стварыў анкету нібы ад імя дзяўчынкі 14 гадоў. «Праз нейкі час мне напісалі каля 20-ці чалавек! Траціна з іх адкрыта казалі, што хочуць сэксу, — абураецца ён. — Вось такіх людзей мы і ловім».

Па яго словах, адзін з «педафілаў» прасіў выдаліць відэа, але яму адмовілі. «На жаль ці на шчасце, я ўсё менш шкадую такіх людзей. Мы не ўжываем сілу. Аднак усё, што мы робім, застаецца ў кадры».

У суполцы «Стоп Выблюдкі» цяпер — больш за 1000 удзельнікаў. Нядаўна з'явілася і рэгіянальная «філія» ў Віцебску.

Мы паразмаўлялі з адным з удзельнікаў суполкі «Стоп Выблюдкі» Аляксеем Лысым. Ён вырашыў далучыцца да руху, бо «ніколі не трываў вычварэнцаў».

Ідэя «перавыхавання» педафілаў не абышлася без крытыкі. Маўляў, гэта самасуд. А яшчэ — правакацыя, бо 12—14-гадовых на сайтах «знаёмстваў» увогуле не павінна быць.

А што калі чалавек просіць выдаліць уласнае фота ці відэа з сайта? Калі гэта не зроблена, ён мае права падаць на сайт у суд. Аднак наўрад ці тыя, хто «трапіў», захочуць агалошвання.

Як паведаміў Алег Слепчанка, намеснік начальніка ўпраўлення па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій, гэтая акцыя не з'яўляецца ініцыятывай МУС. Ён нагадаў, што невядома дзе і як знятае відэа ці пакказаная ў роліку перапіска яшчэ не доказ віны.

«Дадзеная група «Укантакце» не сказаць што дзейнічае не ў рамках закона, але на мяжы», — кажа Слепчанка.

Галоўнае, каб гэтыя маладзёны не ўчынілі «суд Лінча», засцерагае ён.

У дадзеным выпадку некаторым «мазгі» на месца становяцца, кажа Аляксей Лысы. У рэальнасці, кажа ён, гэтыя людзі нагадваюць затурканых няўдачнікаў, якія часцей за ўсё ў інтэрнэце выкладаюць не сваё фота.

**Аксана Рудовіч**

**Звярнуўся чытач**

## Спачатку зямлю далі ў пажыццёвае карыстанне, а затым адабралі

Абяцалі рассяліць у дзве кватэры, а ў выніку далі адну.

Дом 37 на вуліцы Тыражнай належаў дзеду Вячаслава Шварумяна. Зямельны надзел той атрымаў яшчэ да вайны. Пасля яго смерці хату падзялілі нашчадкі. Так Вячаслаў і атрымаў сваю частку. А ў 2008-м даведаліся, што дом падлягае зносу, а зямлю забірае дзяржава.

Ульяна, былая жонка Вячаслава, развялася з ім за год да высялення. Але жыла разам з мужчынам і дзвюма непаўналетнімі дочкамі. У ліпені 2008-га яны атрымалі ліст ад дырэктара адной будаўнічай фірмы. У ім паведамлялася, што ўсе жыхары дома запрашаюцца для разгляду пытання аб перасяленні. У выпадку нез'яўлення цягам пяці дзён дырэкцыя фірмы пагражала падаць у суд на прымусовае высяленне.

У лісце гаварылася пра знос дома на дзяржаўныя патрэбы, што, па словах дырэктара фірмы, замацавана адпаведным рашэннем Мінгарвыканкама ў 2007-м (насамрэч толькі 30 кастрычніка 2008 гарадскія ўлады прынялі такое рашэнне). У ім гаворыцца аб перадачы канфіскаваных надзелаў у часовае карыстанне фірме пад будаўніцтва.

У часе сустрэчы, па словах Ульяны, было дамоўлена, што гэтая фірма набудзе для Вячаслава і яе дзецей асобныя кватэры (жанчына не з'яўлялася саўласніцай дома, таму не прэтэндавала на асобную кватэру ї для сябе). Яна тады падабрала сабе 3-пакаёўку на вул. Мірашнічэнкі. А Вячаслаў папрасіў выкупіць яму 1-пакаёўку — у Бараўлянах. Ульяна кажа, што не прагнула новай кватэры ў цэнтры. Галоўнае для яе — раз'ехацца з былым мужам.

Да кастрычніка 2009-га кватэраў так і не афармілі. Мужчына пабачыў кватэру ў Бараўлянах і адмовіўся ў яе перасяліцца, пакуль там не выправяць хібы: былі скручаны лічыльнікі, адсутнічала пліта на кухні. Урэшце ў лютым 2010 будфірма падала заяву ў суд аб прымусовым высяленні Шварумянаў.

На судзе фігуравала толькі адна кватэра для ўсіх — на вул. Мірашнічэнкі. І 2 красавіка 2010-га было вынесена рашэнне аб высяленні сям'і Шварумянаў. Тут адбылася трагедыя: Вячаслаў павесіўся.

На 13 верасня 2010 прызначылі высяленне сям'і. Жанчына запратэставала: два гады ў кватэры на Мірашнічэнкі не была, не бачыла яе стан. Паехала туды і ўбачыла жах — туалет разбіты, усюды антысанітарыя. Перасяляцца адмовілася. Калі прызначылі паўторнае высяленне, у кватэры пафарбавалі падлогу, адрамантавалі прыбіральню. Будаўнічая фірма яшчэ выплаціла 3 мільёны рублёў (на той час гэта была тысяча даляраў) «для выпраўлення недахопаў кватэры сваімі сіламі».

...Ульяна адзначае, што матэрыяльных прэтэнзій не мае да будаўнічай фірмы. Але яна абурана сістэмай. Спачатку зямлю далі ў пажыццёвае карыстанне, а затым адабралі. Закон не на баку ўласніка, упэўнена Ульяна.

**Сяргей Макарэвіч**

Цяпер на месцы дома на Тыражнай, 37 будуецца жылы комплекс. Квадратны метр у навабудзе каштуе 1180—1250 у.а.

# Мова наша, мова

У Бялыніцкім раёне вучні белмоўных школаў пісалі **алімпіяду па-расейску**.

Падчас правядзення раённых алімпіядаў па сусветнай гісторыі ўсе вучні мусілі выконваць заданні на расейскай мове. Між тым усе вясковыя школы ў раёне — белмоўныя, напісаў нам чытач.

Алімпіяды прайшлі на базе СШ №2 Бялыніч 28 сакавіка.

«Я разумею не ўсе пытанні, бо шмат якія тэрміны розняцца ад таго, чаму нас вучылі ў школе, — кажа адзін з удзельнікаў алімпіяды па гісторыі, вучань 5-га класа Машчаніцкай сярэдняй школы. — Не ведаю, чаму няможна было задаваць пытанні па-беларуску».

Такая сама дыскрымінацыя сустракаецца на алімпіядах па розных прадметах у сталіцы.

Або іншы прыклад: вучні 1-4-х класаў беларускамоўных гімназій вымушана выкарыстоўваюць расейскамоўныя падручнікі «Magic box» па англійскай мове, контурныя карты па гісторыі ў многіх старэйшых класах таксама расейскамоўныя.

Сумна, што ў Беларусі правы беларускай мовы прыходзіцца адстойваць нават у такім элементарным.

**Сяргей Гезгала**

# Галубовіч: Паступацца прынцыпамі можна, але не даходзячы да прадажнасці

Паэт Леанід Галубовіч пра сябе і свой выбар.




МІРАСЛАЎ АДАМЧЫК

18 красавіка ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры Леанід Галубовіч прэзентаваў новую кнігу «З гэтага свету». Гэта першы вершаваны зборнік паэта, які ён выдаў пасля 12-гадовага зароку ніколі не пісаць вершаў.

**«Наша Ніва»: Адмовіцца ад чаркі прасцей, чым кінуць пісаць вершы?**

**Леанід Галубовіч:** Як толькі пабачыў сігнал свайго зборніка, зразумеў, што зрабіў вялікую памылку... Вершы патаемна былі пры мне, давалі ўнутраную сілу, падтрымлівалі пэўны тонус, здымалі дэпрэсію. Я мог позна вечарам адкрыць файл з набранымі радкамі і перачытваць іх, правіць, рэдагаваць... Я імі жыў. Цяпер — гэта папера і для мяне яны змярцвелі.

Пытанне, чаму Галубовіч парушыў зарок не пісаць, а не тое, ці ёсць паэзія ў яго новых вершах. Сёння літаратурныя імёны робяцца на прагматычных дзеяннях, раскрутках.

Як напісаў Дубавец, «у Галубовіча ўсё адбывалася неяк само сабой». Так было і з «завязкамі». Адразу — з алкагалізмам. У свой час дапіўся да такога стану, што зразумеў — альбо-альбо... Я выбраў жыццё. І ўжо больш за дваццаць пяць гадоў не ўжываю. Так і з паэзіяй. З цягам часу стаў адчуваць унутранае спусташэнне, страту энергіі, чытацкую незапатрабаванасць, без чаго вершы хай і пішуцца (і многімі пішуцца!), але не здараюцца...

**«НН»: Пасля кнігі «Апошнія вершы Леаніда Галубовіча» сапраўды думалі, што больш не вернецеся да паэзіі?**

**ЛГ:** Пэўная сітуацыя (размова з Міхасём Скоблам на гэтую тэму ў эфіры радыё «Свабода» ў 1998) дала штуршок для эмацыйнага агучвання зароку «ніколі не пісаць вершаў». Я пра іх як забыўся на цэлых дзесяць гадоў. Пакуль аднойчы, едучы ў трамваі на працу, задрамаўшы, раптам не пачуў, як у галаве міжволі пачалі верзціся радкі... Так да «ЛіМа» і прыехаў — з цэлай вершаванай страфой.

Адсюль зноў вярнуся да тэмы алкагалізму. Чалавек застаецца з гэтай хваробай на ўсё жыццё. Так, можна і не піць, але... Возьмеш выпадковыя 100 грам для разагрэву душы — і «згарыш», бо ў табе наноў прачнецца «стары знаёмы» алкаголік. Дзе чарка — там і дзве, тры... Тое самае з паэзіяй.

**«НН»: Вы з тых пісьменнікаў, хто прыйшоў у літаратуру не з філфака, а з зусім іншай прафесіі — працавалі электрыкам. Тыя навыкі сёння не страцілі?**

**ЛГ:** Пасля школы мне не хапіла аднаго бала, каб паступіць на гістфак БДУ. Пакрыўджаны, я падаўся ў бліжэйшае вучылішча электрыкаў — у Слуцк. У гэтым горадзе набыў значны жыццёвы і грамадскі вопыт.

Восенню 1967 давялося, хоць і пасіўна, паўдзельнічаць у грандыёзным судовым бунце, які скончыўся падпалам, забойствамі і жорсткім разгонам шматтысячнай грамады «паўсталых» гараджан [абураных тым, што суд, як яны меркавалі, пакрывае чыноўнікаў-забойцаў мясцовага жыхара — «НН»]. Некалькі маіх сакурснікаў па вучылішчы адсядзелі тады ў турме.

Што да прафесіі электрыка, дык яна прайшла ў вінна-туманнай маладосці. Нескладаны рамонт яшчэ магу зрабіць. Усё астатняе — лірыка.

**«НН»: А як Вас «занесла» на тэлебачанне?**

**ЛГ:** У 1989 пасля сканчэння Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве я перабраўся ў Мінск. Шукаў працу. Генадзь Бураўкін, які кіраваў тэлебачаннем, злітаваўся з мяне. Я стаў рэдактарам у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм. Там працавала большасць свядомых беларусаў, у тым ліку Анатоль Сыс. Цікавы быў час. Але як толькі абвесцілі вынікі выбараў першага прэзідэнта, я падаў заяву на звальненне. Ужо тады было ў мяне адчуванне блізкага нацыянальнага рэзруху і не толькі на тэлебачанні.

**«НН»: Пасля развалу «Крыніцы» Вы вярнуліся-ткі ў холдынг і адпрацавалі там восем гадоў…**

**ЛГ:** На старонках «Літаратуры і мастацтва» ў маі 1980 нізкай вясковых вершаў я пачынаўся як літаратар. Таму і гэтым разам я рабіў працу, сыходзячы са сваіх здольнасцяў і вышэйстаячых дапушчэнняў.

Вядома, дзеля хоць якога працягу жыцця беларускай мовы і літаратуры час ад часу трэба было ісці на кампрамісы, а то і «паступацца» пэўнымі прынцыпамі. Але не даходзячы да прадажнасці. Зрэшты, тыя, хто чытаў «ЛіМ», могуць даць ацэнку маёй працы.

Мікалай Чаргінец і Таіса Бондар у пэўныя перыяды падштурхоўвалі мяне да сыходу, змушаючы ўступаць у наваяўлены саюз пісьменнікаў. Але ўрэшце дазволілі дапрацаваць да пенсіі.

У «ЛіМе» працавала і працуе шмат таленавітых і вартых людзей. Усё ж выданні гэтай дзяржаўнай арганізацыі маюць прыстойныя наклады і паступаюць у большасць бібліятэк. Безумоўна, шмат там парожняга і павярхоўнага, але ёсць і асноўнае — колькімагчымая прапаганда беларускай мовы і літаратуры.

Трэба скарыстоўваць для новага нацыянальнага адраджэння ўсякую магчымасць і любую пляцоўку. У гэтым плане мне падабаецца, як працуе ў ТБМ шаноўны Алег Трусаў.

**«НН»: Што мусіць пісаць сёння літаратар, каб быць папулярным?**

**ЛГ:** Асноўная чытаючая аўдыторыя звернутая да лёгкіх бестселераў, дэтэктыўных раманаў і баевікоў. І толькі невялікая частка інтэлектуальнай публікі чытае мастацкую літаратуру. Асабліва паэзію.

Што да папулярнасці, дык у нашы дні яна ўмоўная: сёння — ты, заўтра — нехта іншы. Поспех часцей за ўсё залежыць ад таго, наколькі табе ўдасца заявіць пра сябе на літтусоўках, вечарынах, у СМІ, займець своеасаблівую «групу падтрымкі». Як па мне, дык найлепш жыць па Твардоўскім: «які хачу, такі і знакаміты».

**«НН»: Ваша жонка Вера таксама сябра Саюза пісьменнікаў. Яна не крыўдуе, што даводзіцца заставацца ў цяні мужа?**

**ЛГ:** А чаму ў цяні?! Наадварот, гэта я жыву пад яе сонцам. Жонка з занятасці на патрэбы сям'і (тут я, як гаспадар, пасаромлены) пісала пасля замужжа вельмі мала. Чакае як панацэі пенсіі, каб пісаць. Зрэшты, зважаючы на мой пенсіянерскі вопыт, шанцаў у яе няшмат.

**«НН»: Якая гісторыя Вашага знаёмства?**

**ЛГ:** Пазнаёміліся мы з ёй амаль у адзін дзень як і пабраліся. У Маскве ў Літаратурным інстытуце. Там вучыліся дзве беларускі, да якіх я зазірнуў вечарам. Ужо на другі дзень Вера сабрала свае клункі і перайшла жыць у мой вялікі пакой. Пасля давялося яшчэ доўга прыціраща. Там і дачку пачалі гадаваць.

**«НН»: Ваша дачка ўжо дарослая. Якую дарогу ў жыцці абрала яна?**

**ЛГ:** Ёй 23 гады. Вучылася калісь у Коласаўскім ліцэі. Скончыла два курсы тэлерэжысуры ў Акадэміі мастацтваў. А пасля яе пацягнула на месца нараджэння, у Маскву. Спрабуе пісаць кінасцэнарыі, займаецца мастацкай фатаграфіяй, дапамагае бедным і валацугам, былая заўзятарка футбольнага клуба МТЗ-РІПА, ідэйная анархістка. У сям'і размаўляем толькі на мове. Цяпер у яе жыццёвае выпрабаванне, пераломны перыяд.

**«НН»: Чым Вы займаецеся на пенсіі акрамя літаратуры?**

**ЛГ:** Калі не пішу, то чытаю. Думаю. У перапынках ем, гляджу спартыўныя рэпартажы, мыю посуд (напраўду, любімы занятак), выгульваю сабачку Тэры. Сплю. Бывае, з жонкай...

**«НН»: Вы аматар футбола?**

**ЛГ:** Можна сказаць, фанат. На спорце проста памяшаны, можа быць, крыху менш, чым на літаратуры. У маладосці ганяў у футбол за школу, пасля за калгасную каманду на першынстве раёна. Бывала, і ў трыццаць пяць яшчэ пасля «дозы адрэналіну» бегаць даводзілася. Прыязджаў з вёскі (за 200 км) у сталіцу на матчы футбольнага «Дынама». Калісьці заўзеў за мінскае «Дынама», а з канца 1990-х — за БАТЭ. Матчы Лігі чэмпіёнаў перажываю з валідолам. Добра было б, каб першынство свету 2014 у Мінску адбылося без галоўнага хакеіста краіны альбо з Міколам Статкевічам на трыбуне «Мінск-Арэны».

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

**Леанід Галубовіч**

нарадзіўся ў вёсцы Вароніна ў Клецкім раёне. Скончыў ПТВ у Слуцку. Працяглы час працаваў электрыкам. У 1984 выдаў зборнік вершаў «Таемнасць агню», за які яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў на Беларускім тэлебачанні, у часопісе «Крыніца». Пасля разгрому «Крыніцы» і стварэння дзяржаўнага літаратурнага холдынга зволніўся ў знак пратэсту. Праз некалькі месяцаў вярнуўся ў «ЛіМ». Цяпер на пенсіі.

## Сцісла

### Да Каваленкі падсаджвалі вязняў з нізкім статусам

Пра гэта расказала яго жонка Алена, якая спаткалася з мужам у Навінках. Алена адзначыла, што ў мужа палепшаў настрой. Расказаў, што ў калоніі «Віцьба-3» яму не давалі спаць — запальвалі святло ў пакоі на ўсю ноч. І гэтак трое сутак, якія ён быў прывязаны да ложка.

### Бяляцкі — афіцыйны кандыдат на Нобеля

На мінулым тыдні стала вядома, што Нобелеўскі камітэт прыняў кандыдатуру праваабаронцы на прэмію міру. Чакаць жа імя лаўрэата трэба да кастрычніка. Бяляцкі, які застаецца за кратамі, атрымаў рашэнне суда Першамайскага раёна Мінска ад 29 сакавіка 2012 «аб спагнанні пені» ў суме 140 266 151 руб. і дзяржаўнага мыта 7 013 307 руб.

### Аштрафавалі дзяўчыну Дзіянава

18 красавіка ў мінскую кватэру, дзе жыве Маргарыта Лавышык і яе сяброўка Крысціна Кумейка, уварваліся пяцёра невядомых. Лавышык у гэты час размаўляла па скайпе з каардынатарам «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» Вячаславам Дзіянавым. Апошні чуў, як адбывалася затрыманне. Знайшліся яны на Акрэсціна. Абедзьвюх асудзілі да штрафаў па паўтара мільёны рублёў за дробнае хуліганства.

**СМ**

**Фотафакт**



Палітвязень Павал Севярынец зголіў вусы, якія меў шмат гадоў. «Сакрэт, — смяецца палітык, калі ў яго запыталіся пра прычыну такога рашэння. — Пакуль адгадоўваць не збіраюся».

## Модныя торбы да гадавіны дэвальвацыі

Дызайнеры «Адлігі» стварылі калекцыю торбаў **з «зайчыкамі»-пярэваратнямі**.

Дызайнеры вырашылі крыху «абгрэйдзіць» першыя незалежныя беларускія грошы. У выніку выйшлі модныя «пярэваратні»: зайчыкі, вавёрачкі і зубры з галовамі амерыканскіх прэзідэнтаў з даляраў.

Знешне сумкі нагадваюць інкасатарскія — з металічнай зашчапкай, усё як мае быць. Першыя такія торбы выпусцілі яшчэ перад новым годам, кажа дырэктар дызайн-студыі «Адліга» Вецер Механічны.

А зараз падрыхтавалі новую калекцыю па тканінах і графічным дызайне са «звераняткамі-баксяняткамі». Аўтар графікі — дызайнер Артур Вакараў. Як ён прызнаецца ў сваім блогу, «хацелася ачалавечыць звярκοў».

Замовіць дызайнерскую сумку можна на сайце «Адлігі». Праўда, «зайчыкі» кусаюцца — 499 000 рублёў. Як-ніяк, зяркі з прэзідэнцкім тварам. «Інкасатарскія» торбы са старой калекцыі прапануюцца са зніжкай — 399 000 рублёў.

**Аксана Рудовіч**



# Пуарэ будзе трэніраваць беларусаў

Васьміразовы чэмпіён свету ўзначаліць **мужчынскую біятлонную каманду**.

Яго жонка Ліў-Грэт і тры дачкі застануцца жыць у Нарвегіі. Паведамляецца, што супрацоўніцтва працягнецца да Алімпіяды-2014 у Сочы.

Француз Рафаэль Пуарэ прыляцеў у Мінск на перамовы 9–10 красавіка. Вёў перамовы са старшынёй Федэрацыі біятлона (і старшынёй КДБ) Вадзімам Зайцавым. Пасля перамоваў Пуарэ ўзяў час на роздум і пакінуў сталіцу Беларусі.

Мужчынская зборная Беларусі ў мінулым сезоне паказала катастрафічныя вынікі. Найлепшы — Сяргей Новікаў — быў толькі 51-ым у агульным заліку.

Рафаэль Пуэрэ скончыў кар'еру спартсмена пяць гадоў таму. Разам з нарвежцам Оле-Эйнарам Б'ёрндаленам ён быў наймацнейшым біятланістам свету. Цяпер у Федэрацыі спадзяюцца, што француз навучыць нашых хлопцаў страляць і бегаць.

Праўда, кантракт на свае вочы пакуль ніхто не бачыў.

**Зміцер Панкавец**




## Пенсіянерка паскардзілася на студэнтаў

«Студэнтам карысна хадзіць. Навошта ж ім **дазволілі бясплатна ездзіць** у транспарце?»

«Вы бачылі, колькі моладзі таўчэцца у аўтобусах? Куды гэта яны ўсе едуць?» — патэлефанавала ў рэдакцыю «Вечернего Минска» пенсіянерка Людміла Мікалаеўна.

«Увесь час заўважаю: адна і тая ж кампанія моцных хлопцаў і дзяўчат ездзіць туды-сюды ў 100 аўтобусе цэлы дзень. А ад іх у перапоўнены транспарт з цяжкасцю ўціснуцца можна! Толькі і думаеш, як бы ўласныя рэбры цэлымі пасля такой цісканіны захаваць».

На пытанне, як жа назіральнай пенсіянерцы атрымалася вылічыць ні чым не занятых студэнтаў, якія дарма, ды яшчэ і бясплатна займаюць месца ў аўтобусах, Людміла Мікалаеўна адказала коратка: «А я ўсё бачу. Езджу столькі ж, колькі і яны. Але мне трэба! А ім навошта?»

Інтэрнаўты масава палічылі, што ніякай пенсіянеркі не існуе, а гэта проста артпадрыхтоўка для адмены льготы.

Бясплатны праезд у грамадскім транспарце Мінска для школьнікаў і студэнтаў адменяць з 1 чэрвеня 2012. Пра гэта яшчэ раней паведаміў журналістам старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька.

**ЛМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Месца ў гісторыі

На мінулым тыдні нейкія людзі з «горада трох рэвалюцый» наладзілі нейкую таемную сувязь з нейкімі людзьмі з розных «мірных» гарадоў былога СССР і рыхтуюцца напярэдадні 9 мая пусціць па іх вуліцах так званы «сталінобус» з выявай даўно ўжо сатлелага генералісімуса. Маўляў, трэба вярнуць Сталіна з гістарычнай трупярні на ягонае пачэснае месца ў гісторыі.

Вось гісторыя.

Пачалася яна на хутары Аполіны на Случчыне напрыканцы 1920-х. Жылі на тым хутары дзве сям'і — Бузукі і Філіпчыкі. У Бузукоў — чацвёра дзяцей, у Філіпчыкаў — адзінаццаць. У Бузукоў — зямля, спраўная хата, дыхтоўныя хлявы, сытая скаціна. У Філіпчыкаў — анічога, акрамя лапленай-пералапленай развалюхі і невынішчальнай веры ў шчаслівую будучыню.

На шляху да гэтай будучыні апынуліся Бузукі.

Не, у Мікалая Філіпчыка, галавы сямейства, не было аніякай зайздрасці да суседа, ён не збіраўся паліць ягоную хату. Ён наогул быў не злы чалавек, Мікалай Філіпчык, зусім не лайдак, як тое, магчыма, уяўляецца сучаснай моладзі. Але цяжкая, ад раніцы да раніцы, праца не давала выйсця з жабрацтва. Выйсце намалявалі бальшавікі. І Філіпчык, начапіўшы на нос падвязаныя шнурком акуляры і запаліўшы газніцу, з надыходам цемры браў у рукі пяро, каб напісаць чарговую зацемку ў газету. У тым ліку пра Бузукоў, ворагаў ягонай светлай веры ў камунізм.

Не, яны нічым не заміналі Філіпчыку. Акрамя як сваім існаваннем, якое савецкая ўлада абвясціла несумяшчальным са шчаслівай калгаснай будучыняй. Праўда і тое, што яны гэта і не аспрэчвалі...

Бузукоў саслалі ў Сібір. Там усе яны і памерлі. Выжыў толькі малодшы. Імя не памятаю, ды гэта і не важна.

Перад вайной Бузук-малодшы пасяліўся ў саўгасе пад Ленінградам, ажаніўся. А калі немцы наблізіліся, кінуў капаць акопы, перайшоў да іх і дабраўся да Слуцка, дзе ўладкаваўся камандзірам батальёна паліцыі...

Падрабязна, з пратакольнай абыякавасцю ён расказваў, як у сонечны студзеньскі дзень прыехаў са сваімі падначаленымі да Філіпчыкаў; як пагналі іх да старога дуба на ўскрайку хутара; як плакалі дзеці, калі маці завязвала ім вочы; як стаяў Мікалай Філіпчык, зняўшы акуляры і праціраючы іх скамечаным у дрыготкай руцэ канцом кашулі... «Ты заб'еш мяне, — сказаў тады Філіпчык, — але лапці мае пойдуць за табой...»

## Заўсёды будуць з'яўляцца тыя, хто зноў і зноў нацягне на сябе сталінскі мундзір

«Лапці» Філіпчыка дагналі Бузука ў 1977. Ніна, Філіпчыкава пляменніца, адзіная з дзяцей, што паспела схавацца ў лесе, увесь час пасля вайны дамагалася, каб яго шукалі. Адшукалі ў тым жа саўгасе пад Ленінградам, у той жа жонкі...

І быў суд. Беларускі і яўрэйскі, гарадскі і сялянскі Слуцк скаланаўся ад успамінаў аб яго крывавых злачынствах...

Бузук, лядашчы нізкарослы стары, сядзеў на доўгай лаве падсудных тварам да суда. «Павярніце яго! Хай павернецца! Хай паглядзіць людзям у вочы!» Перад тым як зачытаць прысуд, яму загадалі павярнуцца. І тады ён ускочыў з лавы і, хістаючыся на нямоглых нагах, пабег да выхаду з залы Дома культуры...

...Ад смерці пабег? Ці, можа, ад незгасальнага ў памяці бляску акуляраў Філіпчыка? А мо хацеў збегчы з жахлівай гісторыі, у якую зацягнуў яго адноўчы бязлітасны вір «класавай барацьбы»?..

Яго злавілі. Увесь астатні час, пакуль ён стоячы слухаў расстрэльны прысуд, месца на лаве заставалася пустым...

Дык ці трэба тлумачыць, якое месца ў гэтай гісторыі займае Сталін?

Ці трэба тлумачыць, якое месца ў Гісторыі ўсё яшчэ чакае яго?

Пакуль нехта лічыць, што дастаткова пахаваць Сталіна пад тэктанічнымі плітамі Часу, заўсёды будуць з'яўляцца тыя, хто зноў і зноў нацягне на сябе сталінскі мундзір.

Між тым, любая праява сталінізму — ад правакатарскага фарса са «сталінобусам» да ўсёабдымнага страху перад уладай — дыхае злачыннай варожасцю паміж людзьмі, крывёю ды грамадзянскай вайной...

Не дзіва, што менавіта на прасторы, дзе ўладарыў «пераможца фашызму», нараджаецца найноўшы фашызм.

Вось чаму патрэбен суд, і хутчэй. Бо канчаткова сыдзе апошняе пакаленне, здольнае беспамылкова пазнаваць у падрабязнасцях ды агульнай атмасферы сённяшняга жыцця рысы і подых сталіншчыны.

Канчаткова сыдуць у нябыт ахвяры, сведкі і суддзі...

*kamerton_41@mail.ru*

# Юрый Чыж пачаў будаўніцтва гіпермаркета ў Каменнай Горцы

Ён складзе канкурэнцыю «Алмі» і «Віталюру».

Рэтэйлавыя сеткі ўсур'ёз падступаюцца да новага, вялізнага сталічнага мікрараёна Каменная Горка. Непадалёку гатовая пачаць будаўніцтва «Алмі», ужо адкрыўся «Віталюр». Цяпер каляаднайменнай станцыі метро, на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Кунцаўшчыны пачалося будаўніцтва гандлёва-забаўляльнага комплексу.

Жыхары мікрараёна звярнулі ўвагу на тое, што за некалькі тыдняў гіганцкае поле было перакапанае цалкам. Днямі вакол яго быў выстаўлены плот. Але хто пачаў загадкавае будаўніцтва, дагэтуль афіцыйна не заяўлена.

### Выкінуты «Гіпа»

Згодна з інвестыцыйнымі планамі Мінгарвыканкама, на скрыжаванні Прытыцкага—Кунцаўшчыны меўся быць пабудаваны гандлёва-забаўляльны цэнтр з гандлёвай плошчай не менш за 21 тысячу квадратных метраў. Гэта б быў адзін з самых вялікіх аб'ектаў у сталіцы. Для параўнання, «Карона» займае ўдвая меншую, а «Прасторы» — у тры з паловай разы меншую тэрыторыю. Інвестарам пазначаны англійскі «Белвілесдэн», іншымі словамі, на працягу некалькіх гадоў адкрыўся б гіпермаркет «Гіпа». Участак для будаўніцтва быў выдзелены яшчэ некалькі гадоў таму, грамадству было прадстаўлена чатыры розныя праекты, аднак, як выявілася цяпер, дырэктар «Белвілесдэна» Алег Бараноўскі быў вымушаны аддаць перспектыўную пляцоўку.

Наступным прэтэндэнтам на месца называўся «Прастормаркет» Юрыя Чыжа. Аднак мільянер ужо мае выдзеленую пляцоўку на скрыжаванні Прытыцкага і МКАДа — таксама ў Каменнай Горцы, але за кіламетр ад метро. Мець жа па суседстве два аднолькавыя «Прасторы» — неразумнае ўкладанне сродкаў.

### Літоўскія госці

Пакуль што на будоўлі не вісіць пашпарт аб'екта, на якім павінна знаходзіцца інфармацыя пра падрадчыка і выканаўцу працаў. Па словах будаўнікоў, забаўляльны цэнтр будзе належыць адной з літоўскіх сетак.

Дагэтуль балтыйскі капітал быў прадстаўлены ў сетцы крамаў «Суседзі», якая не мела планаў будаваць гіпермаркеты, і будаўнічай сетцы «Ома». Яе крамы быць не можа — праз дарогу знаходзіцца іншы будаўнічы гіпермаркет «Мацярык».

Месяц таму агенцтва «Мінск-Навіны» распаўсюдзіла інфармацыю, што ў сталіцу прыйдзе літоўская сетка крамаў Maxima, якая прадстаўленая, у прыватнасці, у вядомым віленскім «Акрополісе». Пасля таго як літоўцы нібыта абверглі гэтыя звесткі, чыноўнікі ўдакладнілі — у краіну прыйдзе іншая літоўская кампанія, «Глера Капа», уласнікі якой раней працавалі ў Maxima. А ў пачатку месяца Maxima ўсё ж зарэгістравала даменнае імя сайта maximabelarus.by, ускосна пацвердзіўшы свае намеры выйсці на беларускі рынак. Ці насамрэч на Каменнай Горцы з'явіцца самы вядомы літоўскі гіпермаркет, ці то іншая сетка, «Наша Ніва» паспрабуе даведацца ў Мінгарвыканкаме ў найбліжэйшыя працоўныя дні.

Аднак інтарэс уяўляе і тое, на каго ў Беларусі вырашылі абаперціся літоўцы.

### Рукамі Чыжа?

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», працы на аб'екце вядзе ЗААТ «Магнус груп». Гэта кампанія створаная на базе літоўскіх будаўнічых арганізацый і філіі «Будаўнічае ўпраўленне» ААТ «Трайпл» Юрыя Чыжа.

У адрозненне ад іншых кампаній Чыжа, якія трапілі пад санкцыі Еўрасаюза, гэтая пакуль не закранутая абмежаваннямі. Паказальна, што дырэктар кампаніі Пермінас Шарунас — літовец, а тры ягоныя намеснікі — беларусы. Дарэчы, «Магнус груп» пастаянна запрашае на працы ў нашу краіну літоўцаў.

Аб'екты, на якіх працавала «Магнус груп», кажуць самі за сябе — два гіпермаркеты «Прастор», рэстаран «Ракаўскі бровар», гарналыжны комплекс «Лагойск»... Усё гэта ўласнасць Юрыя Чыжа. Што да праектаваных будынкаў, то ў спісе дасягненняў кампаніі гандлёва-забаўляльны комплекс каля «Мінск-Арэны» (таксама трайплаўскі), стадыён БАТЭ ў Барысаве, а таксама якраз гандлёвы будынак «Каменная Горка» на 80 тысяч квадратных метраў. Рэндар, прыведзены на карце, адносіцца менавіта да той часткі раёна, на якім пачаліся працы.

**Ягор Марціновіч**

## Іркуцкіх беларусаў абвінавацілі ў экстрэмізме

26-гадовы Аляксей Кухта апынуўся ў цэнтры скандалу.

У Іркуцкай вобласці распачалі крымінальную справу супраць 26-гадовага Аляксея Кухты. Яго вінавацяць у экстрэмізме. Падставай сталі фоты і відэа, якія юнак выкладаў на сваёй старонцы «Укантакце». Падчас ператрусу ў яго знайшлі «нашыўкі з нацысцкай сімволікай і літаратуру экстрэмісцкага характару».

Гэта нярэдкі для Расіі выпадак, калі б не той факт, што Кухта ўваходзіць у моладзевы клуб «Крывічы» пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры імя Яна Чэрскага. Праз гэта ў справу аказаліся ўцягнутымі таварыства і ягоны старшыня Алег Рудакоў. На офісе арганізацыі і кватэры Рудакова двойчы правялі ператрусы.

Кухта прызнаў сябе вінаватым. Цяпер яго адпусцілі пад падпіску пра нявыезд. Рудакоў мяркуе, што ўся справа для яго скончыцца штрафам. «Сябры таварыства не падзяляюць антысеміцкія погляды Кухты», — кажа Рудакоў. І перажывае: «Што мы будзем рабіць з тым брудам, які на нас вылілі?» Рудакоў перажывае, што памылкова ў СМІ пра Кухту гаварылі як пра кіраўніка клуба «Крывічы», якім ён ніколі не быў.

Аднак ва ўсёй справе Рудакоў заўважае і элементы цкавання беларускага таварыства. «Што не выпадкова гэта робіцца — дакладна».

У Іркуцкай вобласці жывуць сотні нашчадкаў беларускіх перасяленцаў. Яны захоўваюць звычаі і мову бацькоў.

**Сяргей Макарэвіч**

**Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага**

заснавана ў 1996. Мае 10 філіяў ва Усходняй Сібіры. Пры таварыстве дзейнічаюць 11 фальклорных ансамбляў, народны хор, тры танцавальныя групы.

**In memoriam**

## Ганна Пазняк (1922—2012)

Маці Зянона Пазняка некалькі дзён не дажыла да 90-годдзя.



**Зянон Пазняк зрабіў высокамастацкія здымкі сваёй мамы, якую бясконца любіў.**

Ганна Яўхімаўна Пазняк дажывала ў адзіноце пасля вымушанай эміграцыі сына, палітычны выбар якога яна падтрымлівала ўсім сэрцам. Апошнія гады яна праляжала пасля цяжкага інсульту. Яна страціла слых і амаль не хадзіла. Глядзелі яе паплечніцы сына з Кансерватыўна-хрыс-ціянскай партыі БНФ.

Пахавалі Ганну Пазняк 23 красавіка ў родных Суботніках. Там жа адпелі ў касцёле — тым самым, дзе яна схавалася ад гібелі ў 1944-м, цяжарная, калі нацысты палілі мястэчка. На магілкі не неслі пад нацыянальным сцягам. На могілках зачыталі лісты з Нью-Ёрка, ад сына і нявесткі. У Беларусі ў Ганны Яўхімаўны не засталося блізкай радні.

Ад'езд Зянона яна перажывала цяжка. Але разумела: пры дыктатары яго чакала або смерць, або турма. Пабачыліся яны за гэтыя 16 гадоў толькі раз — у 1998-м, у Варшаве.

Са сваім мужам Станіславам Ганна Пазняк (у дзявоцтве — Біль) пажыла ўсяго некалькі месяцаў. Ён загінуў на фронце ў снежні 1944-га, у часе службы ў Савецкай Арміі. Зянону тады не было яшчэ і годзіка. Пагінулі і іншыя мужчыны сям'і: брат Ганны Яўхімаўны Ясь згарэў у танку ў тым самым 1944-м, у 1939 бальшавікі расстралялі Яна Пазняка, Зянонавага дзеда... Жанчына сама гадавала сына.

Хоць бацькі не было, успамінаў Зянон, але «яго дух быў дома»: «У дзяцінстве ў мяне было ўсё: матчына ласка і аўтарытэты. Найвялікшым аўтарытэтам быў бацька — дамагалася гэтага маці. Яна заўсёды прыводзіла прыклад бацькі: што б ён рабіў, як бы ён радаваўся, калі б я вось гэтак зрабіў...»

Валявая жанчына, яна працавала сакратаром сельсавета і «перажыла трынаццаць старшыняў», а пасля — начальніцай пошты. Магла абсадзіць нават НКВД. «Пасля вайны ў сельсавет наязджалі энкавэдзісты, што папрывыкаўшы нагамі дзверы адчыняць: маць-перамаць. Яна іх адпраўляла, — расказвае Пазнякоў сусед Фелікс Язэпавіч. — Сказала старшыні выканкама: «Каб матаў мне тут не было!»

«Каб не сям'я франтавіка — а гэта ўлічвалася бальшавікамі, — нас бы вывезлі ў Сібір», — успамінаў дзяцінства Зянон.

Маці Пазняка была ў КПСС, але пры гэтым не здраджвала сваім жыццёвым прынцыпам.

Сын быў сэнсам яе жыцця. Гэта яна падарыла яму ягоны першы фотаапарат, ганарылася ягонай навуковай і творчай кар'ерай. Калісьці ў часе вандроўкі нашаніўцаў у Суботнікі суседзі пераказвалі яе расказ пра сына: «У Зянона дома нават кіліма няма — кляёначка. Затое ён штодзень нейкую кнігу купляе. Кніг у яго столькі сабралася, што ўжо на сценах месца бракуе, дык ён зрабіў палічкі, да столі падвешаныя...»

Калі маці пастарэла, сын забраў яе з Суботнікаў у сваю мінскую двухпакаёўку на вуліцы Герасіменкі. Як яна яшчэ была дужэйшая, вярталася ў мястэчка на лета.

Пасля ад'езду Зянона за мяжу маці папрасіла сяброў сына паставіць ля весніц іх суботніцкай хаты высокі жалезны крыж. Вакол крыжа пасадзілі бэз.

**Сяргей Мікулевіч**

# На Гродзеншчыне адбылася VIP-аварыя

Былы сенатар **Казімір Рахатка** на джыпе пратараніў легкавік.

Аўтакастрофа здарылася ў нядзелю 15 красавіка, на праваслаўны Вялікдзень. Прыблізна а 17 гадзіне на 184-м кіламетры дарогі Мінск—Гродна, у Лідскім раёне, улабавую сутыкнуліся Toyota Land Cruiser і Opel Astra. Паводле афіцыйнай інфармацыі ДАІ Гродзенскай вобласці, 59-гадовы мужчына «невядома чаму выехаў на паласу сустрэчнага руху». У міліцыі мяркуюць, што кіроўцу ўседарожніка магло падвесці здароўе. Ён нядаўна выпісаўся з бальніцы, і ў яго маглі ўзнікнуць праблемы з сэрцам.

Выезд «Таёты» на сустрэчку меў катастрафічныя наступствы для кіроўцы «Опеля» і яго пасажыраў. Адзін з іх, 53-гадовы цесць кіроўцы, памёр ад траўмаў у рэанімацыі; кіроўца, яго жонка, 8-гадовая дачка, цешча і сястра жонкі атрымалі цяжкія траўмы.

Кіроўца «Таёты» атрымаў чэрапна-мазгавую траўму і шматлікія ўдары. Ягоныя дзеянні кваліфікуюцца як «парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека або прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання». Яму можа пагражаць пакаранне да пяці гадоў зняволення.

Як толькі фота і відэа з месца трагедыі трапіла ў інтэрнэт, на форумах загаварылі, што кіроўцам Toyota быў старшыня Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства «Мажэйкава» Казімір Рахатка. Гэтыя звесткі падмацоўваліся інфармацыяй з лідскай бальніцы.

Некаторыя сведкі аварыі і простыя ўдзельнікі форумаў таксама звярталі ўвагу на тое, што нумарны знак «Таёты» таямніча знік пасля прыезду на месца ДТЗ міліцыі.

У рэанімацыйным аддзяленні Лідскай цэнтральнай раённай бальніцы карэспандэнту «НН» пацвердзілі інфармацыю пра шпіталізацыю старшыні «Мажэйкава». Там расказалі, што Казімір Рахатка паступіў да іх пасля аварыі з траўмамі, якія не неслі пагрозы для жыцця. У рэанімацыі ён правёў 15 гадзін і пасля стабілізацыі стану быў пераведзены ў хірургічны аддзел.

У рэанімацыі падкрэслілі, што Рахатка паступіў да іх з траўмамі, атрыманымі ў выніку аварыі, на момант шпіталізацыі праблем з сэрцам у яго не выявілі.

**Сямён Печанко**



«Казімір Рахатка нядаўна выпісаўся з бальніцы, і ў яго маглі ўзнікнуць праблемы з сэрцам

Нумарны знак «Таёты» знік пасля прыезду міліцыі.

**Казімір Рахатка**

Нарадзіўся ў 1952. Дырэктар ЛРСУП «Мажэйкава». Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларусі, кандыдат эканамічных навук. Дэпутат савета рэспублікі двух скліканняў (2000—2008).

**ЛРСУП «Мажэйкава»**

Адно з найбуйнейшых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Гродзеншчыны. Акрамя раслінаводства і жывёлагадоўлі, займаецца вытворчасцю лікёра-гарэлачнай прадукцыі, мае ў валоданні лясную паляўнічую гаспадарку.

# Што здарылася ў Гомелі 19 красавіка?




За некалькі секунд да выбуху.

Дагэтуль няясна: ці то быў сапраўдны тэракт, ці то вучэнні, ці то выбух у рамках вучэнняў.

У суботу інфармагенцтвы паведамілі пра выбух у адной з гомельскіх крамаў. Крымінальную справу завялі паводле ч.1 арт.290 КК (пагроза актам тэрарызму).

Упраўленне КДБ па Гомельскай вобласці апісвае інцыдэнт так: 19 красавіка ў 13.58 у краме спрацавала самаробная прылада.

КДБ падзяліўся і адной з версіяў наконт магчымых арганізатараў «дзеянняў тэрарыстычнай накіраванасці». Магчыма, гаворка ідзе пра «разборкі» паміж арганізатарамі каналаў нелегальнай міграцыі, якія прыбываюць у Беларусь пад выглядам навучання ў ВНУ.

На 19 красавіка ў Гомелі былі запланаваныя міжведамасныя камандна-штабныя вучэнні па тэме «Арганізацыя і ажыццяўленне мер дзяржаўнага рэагавання на акты тэрарызму».

Звяртае на сябе ўвагу тое, што інцыдэнт у Гомелі адбыўся неўзабаве пасля з'яўлення інфармацыі пра магчымыя змены ў арганізацыі працы на заходняй мяжы Беларусі ў адказ на санкцыі з боку ЕС.

У нядзелю дзяржаўныя тэлеканалы распаўсюдзілі атрыманыя ў КДБ відэакадры з гомельскай крамы ў момант выбуху. Як вынікае з іх і сведчанняў касіркі, што знаходзілася каля месца закладкі зараду, выбух быў слабы, як ад петарды. На кадрах бачна, што ў гэты момант каля касы быў пакупнік з маленькім хлопчыкам.

Гомельскі сайт Odsgomel.org піша, што, магчыма, выбух адбыўся ў краме «Вёсны». Менавіта каля яе 19 красавіка былі заўважаныя машыны спецыяльных службаў і «хуткай». Карэспандэнт сайта сцвярджае, што адзін з міліцыянтаў патлумачыў, што тут ідуць вучэнні. Odsgomel.org параўнаў інтэр'ер «Вёснаў» з крамай, паказанай у выпусках навін, і прыйшлі да высновы, што гэта найхутчэй адна і тая ж установа.

**СП**

## Сцісла

### Пад Мінскам мікрааўтобус змяў легкавік ушчэнт

Трагедыя здарылася каля Абчака. Кіроўца легкавіка «Пежо-405» улабавую сутыкнуўся з мікрааўтобусам «Мерсэдэс-312D». У выніку аварыі загінулі кіроўца легкавога аўтамабіля і пасажырка мікрааўтобуса. Акрамя таго, атрымалі раненні кіроўца і 10 пасажыраў «Мерсэдэс Бенц 312D»: усе яны былі шпіталізаваны.

### Чыноўніца пратэжавала сваякоў

Начальнік аднаго з упраўленняў Міністэрства адукацыі аказваў дапамогу і пратэкцыю прыватным унітарным прадпрыемствам, кіраўнікамі і заснавальнікамі якіх з'яўляліся яе блізкія сваякі. Генеральная пракуратура звярнулася да міністра адукацыі з патрабаваннем вызваліць гэтага спецыяліста ад пасады і прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасці.

### Займаўся распустай з хроснай

У Гомелі мужчына паклікаў да сябе ў госці даўніх знаёмых. Тыя прыйшлі разам з унучкай. Выпіўшы, гаспадар кватэры, які быў адначасова і хросным дзяўчынкі, запрасіў дзіця ў суседні пакой — маляваць, мульцікі паглядзець. Мужчына займаўся з дзіцем распустай. Заведзена крымінальная справа.

### Бойка фанатаў у Слоніме

Футбольны сезон «распачалі» фанаты мясцовага «Камунальніка» і гродзенскага «Белкарда». Баталія, у якой удзельнічалі з абодвух бакоў каля 60 чалавек, доўжылася, як адзначаюць сведкі, не больш за 10 хвілін. На месцы пабоішча застаўся ляжаць акрываўлены юнак, якога потым падабрала машына хуткай дапамогі.

### У цэнтры Глыбокага шалёная андатра напала на дзяўчыну

Здарэнне адбылося каля будынка райвыканкама. Ад жывёліны дзяўчыну абараніў хлопец, якому ўдалося забіць андатру. Міліцыянт, які дзяжурыў у будынку, выклікаў «хуткую дапамогу». Пасля высветлілася, што андатра была хворая на шаленства.

### Віцебскі лазеншчык распаўсюджваў у інтэрнэце парнаграфію

Следчы камітэт распачаў справу за распаўсюд парнаграфіі на падставе часткі 2 артыкула 343 Крымінальнага кодэкса ў дачыненні 51-гадовага лазеншчыка (работнік лазні). Высветлілася, што мужчына размяшчаў у сацыяльных сетках асабістыя фотаздымкі і мастацкія парнаграфічныя замалёўкі з натуры.

### У Гродне 9-гадовая дзяўчынка падрапала 14 аўто

Міліцыянтам яна наіўна прызналася, што вельмі любіць маляваць. Мастацкія здольнасці маленькай дзяўчынкі дорага абыдуцца бацькам.

**КМ**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Алесь Марачкін стварыў новую карціну «Два генералы, пуга і сабака». Пакуль яе бачылі толькі сябры мастака на прэзентацыі «для сваіх».

# Фільм паводле Быкава трапіць у Каны

Гэта стужка **«У тумане»** рэжысёра Сяргея Лазніцы.

Фільм адабраны для ўдзелу ў асноўным конкурсе Канскага фестывалю. Сяргей Лазніца называе стужку, у аснове якой ляжыць аднайменная аповесць Васіля Быкава, драмай «пра чалавека, які спрабуе зрабіць маральны выбар у амаральных абставінах».

Дзеянне адбываецца на тэрыторыі акупаванай немцамі Беларусі ў 1942. На пуцявога абходчыка Сушчэню ўзводзяць паклёп, вінавацячы ў супрацы з акупантамі. Два партызаны прыязджаюць да Сушчэні на хутар, каб яго забіць. Сушчэня ж спадзяецца даказаць невінаватасць...

Галоўнага героя Лазніца не ацэньвае: «Сітуацыя пазбаўляе яго выбару. Ягонае рашэнне — не выйсце з сітуацыі, а магчымасць выратаваць сябе. Што стварае такую сітуацыю — вось што мяне цікавіць». У яе можа трапіць кожны, падкрэслівае рэжысёр, і прызнаецца: калісьці такое давялося перажыць і самому. І тут жа дадае: «Гэта не абавязкова заканчваецца такім выйсцем, якое ёсць у аповесці».

«Мяне цікавіць гэты час, гэтае месца, гэтыя людзі. Такіх, як герой аповесці Быкава — на мой погляд незаслужана забытай і недачытанай, — амаль не захавалася», — казаў Сяргей Лазніца.

Доўгі час на фільм не знаходзілася грошай. Іх нават збіралі праз інтэрнэт. Сушчэню сыграў актор-беларус Уладзімір Свірскі. У здымачнай групе працавалі беларусы, латышы, літоўцы, немцы, расійцы, палякі, румыны, чэхі — усяго на пляцоўцы гучала дзевяць моваў.

Карціна была знятая за 28 дзён у Латвіі. Скончылі здымкі ў студзені 2012. Правы на сусветныя продажы карціны належаць кампаніі Match Factory. Бюджэт стужкі склаў прыкладна 2 млн еўра — не так і шмат.

Упершыню фільм «У тумане» будзе прадэманстраваны на кінафестывалі ў Канах. Пакуль праца над фільмам не скончаная і чарнавы варыянт не бачылі нават сябры рэжысёра. У пракат кіно трапіць не раней за восень.

Гэта другая гульнявая стужка дакументаліста Лазніцы. Першым досведам быў фільм пра жыццё расійскай глыбінкі «Шчасце маё», які два гады таму таксама быў прадстаўлены ў конкурсе Канскага фестывалю.


Партызаны прыходзяць да Сушчэні, каб забіць яго за «здраду».

Сяргей Лазніца нарадзіўся ў Баранавічах, вучыўся ў Кіеве, працаваў у Маскве, дзесяць гадоў таму эміграваў у Нямеччыну. Цяпер жыве ў Берліне.

**Сяргей Мікулевіч**

# Лазніца атрымаў ад Быкава асабісты дазвол

Сябар Сяргея Лазніцы, рэжысёр Віктар Аслюк растлумачыў, чаму Лазніца **абраў менавіта Быкава**.

«Сяргей працуе з матэрыялам ад 2002, — кажа Віктар Аслюк. — Ён сустрэўся ў Германіі з Быкавым, атрымаў асабісты дазвол... Тут варта ўлічваць, што Сяргей па сваім светаўспрыманні, па менталітэце — зусім не беларус. Ён еўрапейскі рэжысёр. Тое, што Лазніца нарадзіўся ў Баранавічах, не робіць яго беларускім рэжысёрам — ён сам кажа, што ў ім змяшаліся шаснаццаць нацыянальнасцяў. А прозвішча Лазніца ўвогуле сербскае.

Аповесць Быкава Лазніца ўзяў таму, што яго вабіць экзістэнцыйная драма. Быкаў цікавіць Лазніцу сваёй філасофіяй, вось гэтай сітуацыяй, калі чалавек стаіць перад выбарам, і выбар гэты максімальна цяжкі.

У Быкава заўсёды ёсць матэрыял для кінадрамы, і драмы яскравай. Яшчэ ў папярэднім фільме Сяргея «Шчасце маё» ёсць абсалютна «быкаўскія» моманты. Ён тады імкнуўся трапіць у «вайну», адчуць яе і зразумець.

Я рады, што Лазніца зняў па Быкаву, бо ніхто ў беларускім кіно зараз не працуе з ягонымі ваеннымі творамі, дарэчы, як і з прозай Алеся Адамовіча. А такое кіно магло б стаць мостам вось з гэтай постсавецкай шэрасці. Бо тое, што здымалася нядаўна пра вайну на «Беларусьфільме», створана са штампаў савецкіх часоў, з той розніцай, што ў савецкія часы, нават пры камуністычнай ідэалогіі, вайну часам паказвалі з талентам.

Быкаў — пісьменнік кінематаграфічны, да яго, у прынцыпе, увесь час нехта звяртаецца. У Расіі ў апошнія гады былі экранізаваныя некаторыя творы Быкава — «Пайсці і не вярнуцца», «Бліндаж», — і іх у Беларусі пакуль ніхто не бачыў.

Для нас, беларусаў, асноўная каштоўнасць, што «У тумане» Лазніцы — фільм па Быкаву, і дзякуючы Лазніцу пра Беларусь будзе ўзгадана ў Канах. Але гэта фільм — нямецкі, таму што асноўнае фінансаванне там — нямецкае, праўда, там ёсць і беларуская фінансавая «частачка» — 5-6%. І гэта добра. Хоць так».

**Запісаў Юрась Ускоў**

**In memoriam**

# Віталь Гарановіч



На 61-м годзе жыцця памёр Віталь Гарановіч — былы настаўнік і дырэктар глыбоцкай сярэдняй школы №3, якая ягонымі намаганнямі стала беларускамоўнай.

Віталь Рыгоравіч шчыра ганарыўся многімі сваімі выхаванцамі, кажа краязнаўца і выдавец газеты «Вольнае Глыбокае» Уладзімір Скрабатун: «Многія вучні былі «на барыкадах» — у Мінску ў 2006-м годзе на Плошчы, і «суткі» сядзелі... Ён так і казаў: «О! Гэта мае выхаванцы».

Калі Гарановіч пакінуў дырэктарскую пасаду, школа №3 ператварылася ў звычайную расейскамоўную. Ён казаў, што сышоў з педагогікі паводле ўласнага жадання, але шмат хто ў Глыбокім мяркуе, што гэта было зроблена пад ціскам. Апошнія гады працаваў у раённым прафсаюзе работнікаў адукацыі. Але прынцыпова заставаўся сябрам «неафіцыйнага» Саюза пісьменнікаў.

Віталь Гарановіч выдаў чатыры паэтычныя кніжкі: «Саракі», «Беразвечча», «Святло блакіту» і «Нараджэнне вады». Як часцінка душы паэта землякам застануцца яго вершы і песні — «Глыбоцкі вальс», «Глыбоцкае танга», «Азёры Глыбоччыны», «Беразвечча».

**Паводле радыё «Свабода»**

## Сцісла

### Сядзібы Чачотаў, Храптовічаў і О'Руркаў прадаюць з аўкцыёну

Да продажу рыхтуюць сядзібу Чачотаў сярэдзіны XIX ст. у вёсцы Падароск Ваўкавыскага раёна. Магчыма, з малатка пойдзе маёнтак графаў Храптовічаў канца XVIII ст. у Шчорсах, сядзібны дом графаў О'Руркаў у вёсцы Уселюб (абодва — Навагрaдскі раён). Але прыватнікі не спяшаюцца выкупляць сядзібы, якія патрабуюць вялікіх укладанняў.

### Sziget-2012: The Stone Roses, Korn, Placebo, Кустурыца

Найлепшы музычны фэст Еўропы святкуе 20-годдзе: ад 6 да 13 жніўня ў Будапешце (Венгрыя) пройдзе юбілейны Sziget. Хэдлайнерамі будуць легенда «манчэстэрскай хвалі», гурт The Stone Roses, ікона ню-металу Korn, легендарныя мексіканцы Molotov, а таксама Placebo, The Subways, Emir Kusturica & The No Smoking Orchestra і іншыя.

### Роўлінг піша энцыклапедыю пра Гары Потэра

Аўтар казак пра Гары Потэра і яго сяброў Джаан Роўлінг, якая завяршыла магічную эпапею на сёмай кнізе, працуе над стварэннем энцыклапедыі пра яе чароўны свет.

### «Фэст экскурсаводаў» адмянілі

«Фэст экскурсаводаў», які ладзіцца ўжо не першы год у многіх гарадах Беларусі, на гэтыя выхадныя ў Гродне не адбудзецца. Арганізатары перанеслі яго на неакрэслены тэрмін з-за вусных папярэджанняў міліцыянтаў. Праваахоўнікі закідаюць экскурсаводам, што іх бясплатныя экскурсіі з'яўляюцца несанкцыянаванымі масавымі мерапрыемствамі.

**СМ; «Вечерній Гродно», Generation.by**

# Беларуская катастрофа набліжаецца да канца

Сілавікам трэба рашуча вывесці краіну з залежнасці ад адсталай Расіі. Піша **Уладзімір Іскрык**.

Пачну з загадкі.

Некалькі «важджоў», богападобных фюрараў, у сваіх катухах на глобусе аб'явілі пра сваю несмяротнасць. Алах дазваляе мець чатыры жонкі і безліч байструкоў, таму ўлада ўжо была імі ўвасобленая ў нязменным выглядзе на самы бясконцы час.

Спасылаючыся на нейкія інструкцыі ЦРУ, важджы аберагалі сябе ад ракет і снайпераў заслонамі з малалетак і жонак, рабілі бункеры пад садкамі, бальніцамі і арэнамі. Грошы хавалі ў банках папоў і рабінаў, на кракадзілавых астравах і ў падвалах тампліераў.

Наёмнікі з суседніх царстваў, розных колераў, у тым ліку нейкія марсіяне ці расіяне, эфіопы, людаеды і страхалюды мелі права страляць у кожнага, хто падумаў інакш, чым яны напісалі ў сваіх дэкрэтах.

Армады савецкіх танкаў матлашылі рысавыя палі, бананавыя гаі і нават ціцянкоўскія пліткі на вуліцах самых чыстых у свеце сталіц, а глашатаі і мастакі запаўнялі інфармацыйную прастору — ужо адзіную для ўсіх важджоў — лозунгам:

— Мы сильны как никогда!

І шмат яшчэ чаго чулася — дзесяцігоддзямі.

Але раптам вождж атрымліваў пісьмо ад Дзядзькі Сэма ці Анкла Бэнса, не помню: «Сыдзі падобраму. Грошы ў разумных межах захаваеш. Дзеці дзяцей будуць прыстроены ў Кембрыдж».

Важджы тут жа беглі ў Крэмль. Па дарозе назад з нічым успаміналі, што яны яшчэ і фюрары. Пачыналіся няспынныя парады, раўлі маторы, гібелі з голаду людзі, наёмнікі складалі ў стагі скальпы апазіцыянераў, асабліва маўчуноў, паводле праскрыпцыйных спісаў.

Загадка ў тым, чым гэта канчалася.

Але ж я не сказаў, з кім адбываюцца загадкавыя падзеі: Хусэйн, Мілошавіч, Кадафі?

У Беларусі агучаны наш уласны сцэнар. Хто той драматург, што піша жудасную п'есу для Беларусі?

Так званая апазіцыя карыстаецца для аналізу накінутымі нам схемамі заходняй прапаганды і ёй контрпрапаганды, накшталт «дэмакратызаваць Беларусь праз дэмакратычную Маскву». Адсюль рэвалюцыйныя схемы марксізму-ленінізму: народныя масы, партыі, пралетарыят. Нашыя аналітыкі за тыдзень узнімаюць удвая рэйтынг палітыка... пасля званка з дзяржкантролю. Таму ад інстытуцкіх тэорый навуковага камунізму пярэйдзем да геапалітыкі.

## У Прыбалтыцы хто перавучыўся — мільянеры, хто ствараў інтэрфранты — жабруе

**Уладзімір Іскрык** — былы супрацоўнік структур пры Адміністрацыі прэзідэнта.

БССР была фарпостам СССР. Самая мілітарызаваная краіна ў Еўропе ў канцы XX ст. Тут самая неадукаваная інтэлігенцыя ў Еўропе, бо... найбольш «авалодала самай перадавой тэорыяй», прасякнутая бальшавіцкай нецярпімасцю, дэнацыяналізаваная, абсалютны невук у гісторыі, культуры, эканоміцы etc 9/10 чалавецтва (Кітай і Індыя, ісламскі свет тут вывучаўся за 2-3 гадзіны).

Эканоміка БССР — гэта ваенпрэды ВПК СССР. Бракаванае імі ішло народу. Тут жа найбольш канцэнтраваны партактыў, бюракратыя, муштра дзяцей.

Куды гэта ўсё падзелася «за Шушкевічам»? А нікуды! Хіба да мілітарызаванага народа далучыліся яшчэ афіцэры з Германіі і ракетных шахтаў.

Як можа «аналітык» забыцца пра гэта? Якая дэмакратыя? Якія выбары? ГРУ БВА проста пераняло ўладу ад БССР, ад Кебіча, афіцэра разведкі.

Але, нагадаю, ніводзін (!) кадравы афіцэр і партапаратчык не прыйшоў бараніць ЦК КПБ ад фронтаўцаў (нават франтавік). Не пойдуць і цяпер змагацца за прэзідэнцыю. А вось адстрэльвацца ад галоднага натоўпу — гатовыя!

Беларусь не вытрымае чарговага павышэння пенсій і плат афіцэрству да расійскага ўзроўню, бо Пуцін з 1 студзеня ў РФ падвысіў у 1,5 разу свае.

А вы, беларускія афіцэры былога Саюза, і сёння мучыце вычарпаны смірноўскі, з Прыднястроўя план, замест таго каб вывучыць досвед белагвардзейскай эміграцыі ў Рызе, Варшаве, Парыжы: асіміляваццa трэба, а не асіміляваць. Не было рэваншу і не будзе; самастойнасці трэба дабівацца, а не імперыі. Вучыцца трэба або перавучвацца, а не штыкамі навязваць «бязглуздыя бальшавіцкія ідэі». У Прыбалтыцы хто перавучыўся — мільянеры, хто ствараў інтэрфранты — жабруе.

Памятайце, Захад не будзе карміць мілітарызацыю Беларусі.

Узбройвацца трэба не супраць НАТА, а супраць магчымых банд з Усходу! Мяжа адкрытая аж да Пакістана, а ўзброеныя калегі і крымінальнікі даўно нагледзелі аб'екты ў Беларусі для «рэйдарства».

Беларусь — гэта БССР сёння, толькі ў стане нацыянальнай катастрофы.

Змяніліся лозунгі. Крытычная маса паразітычных сфераў павялічылася аж да ўдушэння стваральных. Народ — калека, у яго атрафіраваны адзін орган — галоўны для арганізма сацыяльнага. Не рука, не нага — у камп'ютарны век гэта дыскамфорт, не вырашальнае. Страчана аснова мыслення — мова. Толькі асёл паводле асветы не ведае, што слова — мацнейшае за атамную бомбу і цунамі, глуханямых фізікаў не бывае.

БССР перад выбарам эпілога: як у Літве? Польшчы? Лівіі?

Адгадку напіша гісторыя.

**З пошты Рэдакцыі**

## «Прадалі краіну, а плачуць па самалётах!»

Так чытач «НН» Барыс адкаментаваў апошні беларуска-расійскі канфлікт у авіяцыйнай галіне.

## Прыватная ўласнасць — гэта святое

Мы павінны адшукваць і гадаваць у сабе парасткі здаровай буржуазнай ментальнасці і культуры, якая была і застаецца асновай дабрабыту людзей у Заходняй Еўропе. Пакуль мы не навучымся паважаць прыватную ўласнасць, нават чужую, нам няма чаго здзіўляцца, што жывём горш за немцаў.

**Алесь Чайчыц, Масква**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Беларуская глыбіня. Сакрамант Гадлеўскага

Піша **Павел Севярынец**.

*Мне праз адкрыццё абвешчана таямніца, — пра што я і вышэй коратка пісаў, — дык вы, чытаючы, можаце ўведаць маё разуменне таямніцы Хрыстовай.*
*Да Эфесцаў 3:3-4*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Чалавеку староннему цяжка зразумець, адкуль у беларусаў, народа абачлівага, раптам бярэцца такая ахвярнасць. Быццам жа ўсё нармальна, ядуць бульбу, ціха сапуць сабе, усё спакойна, размерана, нават нудна, і ў нейкі момант — раз, і абрываецца сэрца, і сыходзіць душа ў пяткі, і захапляе дух ад адчайнай беларускай самаадданасці... і пачынаеш верыць: не, нешта тут не ад свету гэтага.

На ўзлеску Белавежскай Пушчы, паміж Пружанамі і Ваўкавыскам, ці то ў Поразаве, ці ў блізкіх Шурычах, у самай глыбіні, куды і сышла таямнічая беларуская душа, у год нараджэння РСДРП, Рэмарка і Клайва Льюіса з'явіўся на свет адзін з найглыбейшых і найменш вядомых герояў нашай гісторыі — ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі.

## Гераізм Гадлеўскага: ён заплаціў жыццём за стварэнне Беларускай незалежніцкай партыі

Увогуле, уся берасцейская ваколіца — месца адмысловай каталіцкай пакуты. Недзе тут, у лясах на памежжы Прусіі, Русі і Літвы тысячу гадоў таму, у лютым 1009 г. разам са спадарожнікамі быў абезгалоўлены заходні біскуп Бруна Квертфурцкі, «апостал паганцаў», у манастве Баніфацый, адзін з першых хрысціянскіх місіянераў у Беларусі. У XVII ст., падчас крывавай казаччыны, тут, у Іванаве, закатавалі езуіта Андрэя Баболю. Прызначаны ў красавіку 1939 года ў Пружанскі касцёл вікарыем малады Казімір Свёнтак, будучы беларускі кардынал, ужо ў верасні быў арыштаваны тут як польскі шпіён, асуджаны да расстрэлу — і ў Берасцейскай турме дачакаўся вызвалення ад немцаў, а затым, у 1944-м — 10-гадовага зняволення ў Сібіры. Адсюль жа, з Беласточчыны, з падляшскіх Акопаў — духоўны пастыр польскай «Салідарнасці», у 1984-м выкрадзены і забіты камуністычнымі спецслужбамі, багаслаўлёны ксёндз з беларускімі каранямі Ежы Папялушка.

І вось Гадлеўскі — ключавая постаць у Беларусі часоў Вялікай вайны.

Калі дзве найстрашнейшыя ў гісторыі чалавецтва імперыі, Трэці Рэйх і Савецкі Саюз, сышліся ў бойні за сэрца Еўропы і нішчылі тут людзей мільёнамі, беларускі святар гуртаваў жывых вакол Хрыста: з імшою на роднай мове, з Біблiяй па-беларуску і святымі таямніцамі Касцёла, якога не адолеюць брамы пекла. Айцец Вінцэнт зрабіўся кіраўніком адкрытага і падпольнага супраціву абодвум акупантам, каб зберагчы беларускае жыццё коштам уласнага.

Вінцэнт Гадлеўскі ўдзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе, абіраўся ў Раду БНР, а ў 1926-м, у 28 гадоў, разам з ксяндзом Адамам Станкевічам узначаліў Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю, вядучую незалежніцкую партыю Заходняй Беларусі.

Выкладчык у нясвіжскай беларускай семінарыі, пробашч у свянцянскіх Жодзішках, ксёндз Гадлеўскі выдае беларускамоўныя казані XIX ст, рэдагуе хадэцкую «Крыніцу» і газету «Беларускі Фронт», перакладае на беларускую мову Новы Запавет.

У працы да знемажэння, пад смяротнымі пагрозамі, ксёндз Вінцэнт складаў у ахвяру, у жывы сакрамант за ўвесь беларускі народ, сябе. У Жодзішках даводзілася супрацьстаяць польскім асаднікам, што зрывалі беларускую імшу (потым, у 1943-м, акаўцы па-бандыцку пазабіваюць у мястэчку свядомых беларусаў), у турмах часоў санацыі ды перадваеннай Вільні — камуністам, што тлумілі люд сваёй прапагандай і тэрорам, і, нарэшце, у Мінску — нацыстам з іхняй ідэалогіяй вынішчэння «недачалавекаў»...

Гадлеўскі ўдзяляў сакраманты. Спавядаў і прычашчаў... Але самая глыбокая таямніца ксяндза Гадлеўскага была ў тым, што нягледзячы на гестапа і савецкую выведку ён здолеў стварыць падпольную Беларускую незалежніцкую партыю, наладжваў адносіны з заходнімі саюзнікамі — рыхтаваў грунт для незалежнасці.

Вось чаму ў самую доўгую ноч 1942-га, перад Раством, гестапаўцы арыштавалі ксяндза пасля імшы ў Чырвоным касцёле, вывезлі ў Трасцянец і расстралялі.

Цяпер на тым месцы — аграмадная звалка. Чорная смярдзючая звалка. І на ўскрайку — крыж, ля якога ў дзень смерці Гадлеўскага збіраюцца людзі.

Сёлета, на каталіцкае Раство, спаўняецца 70 год з дня ахвяры айца Вінцэнта.

Сённяшні пробашч Чырвонага, Уладзіслаў Завальнюк, ужо каторы год намагаецца ўшанаваць памяць ксяндза хаця б мемарыяльнай дошкай. Забараняюць: для бальшавікоў Гадлеўскі страшны і памерлы.

Такіх ксяндзоў, як Гадлеўскі і Станкевіч, не маглі напалохаць ані Гітлер, ані Сталін.

Ці здолее гэтак жа смела, адважна стаць за Беларусь цяперашні беларускі Касцёл?

Бо ў сакраманце Гадлеўскага, як і ў ахвяры росіцкіх ксяндзоў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча, спаленых разам з парафіянамі, грэка-каталіцкага экзарха Антонія Неманцэвіча, знішчанага нацыстамі, і яшчэ аднаго лідара БХД, Адама Станкевіча, замучанага ў сталінскіх лагерах, у іх жыцці, аддадзеным за бліжніх, і пакутніцкай смерці мы найясней пазнаём Таго, Хто сваёй крывёю асвяціў і Касцёл, і саму Беларусь: уваскрослага пад бел-чырвона-белым сцягам Пераможцу — Ісуса Хрыста.

*Куплін*

# «Жыхар быў вялікім прахадзімцам!»

Яшчэ і сёння на Глыбоччыне і Пастаўшчыне памятаюць антысавецкага партызана Яўгена Жыхара. Піша **Уладзімір Скрабатун**.

Ён быў нібы мясцовы няўлоўны Робін Гуд. 23 тэракты, 42 абрабаванні, 9 нападаў на сельсаветы налічылі «органы» за 1946—1955 гады. Ад розных людзей чуў гісторыі: прыйшоў Жыхар у сталоўку (у Варапаеве, Дунілавічах, яшчэ дзе), паеў, выпіў кухаль піва. Пайшоў. Афіцыянт прыбірае стол. Пад пустым кухлем — запіска: «Тут быў Жыхар!» Мо Жыхар не толькі сам, але і праз сваіх супольнікаў пакідаў такія запіскі паўсюль, каб чэкісты ганяліся за прывідамі.

Гісторыя Жыхара вартая шматсерыйнага фільма. Я бачыў некатоья відэаролікі пра беларускі паваенны антысавецкі рэзістанс. Гарады бралі! Напрыклад, Навагрудак! Але тое мною ўспрымаецца як выдаванне жаданага за сапраўднае. Жыхар жа — рэальны герой (а для кагосьці і антыгерой). Яго і сёння памятаюць. А ў будынку глыбоцкай міліцыі вісіць мемарыяльная шыльда з імёнамі загінулых ад яго рук міліцыянтаў.

Мы завіталі ў вёску Дзеркаўшчына 2-я, што за 10 кіламетраў ад Глыбокага. Тут жыве 80-гадовы Іван Адамовіч, які 17 мая 1951 быў асуджаны на шэсць гадоў за «неданасіцельства» на Жыхара.

**Яўген Жыхар**

нар. у 1925 у Навасёлках Мядзельскага р-на (іншыя звесткі — у Парыжы Пастаўскага р-на) у сялянскай сям'і. У 1943-1944 вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі, уступіў у СБМ. У 1944 скончыў Дальвіцкую разведвальна-дыверсійную школу. У 1945 на тэрыторыі Германіі мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Дэмабілізаваўся ў тым самым годзе. Уладкаваўся настаўнікам у Верацееўскую пачатковую школу (Дунілавіцкі раён). Ад 1946 на нелегальным становішчы. Цягам 1946—1955 здзейсніў 23 тэракты, 42 абрабаванні, 9 нападаў на сельсаветы. Загінуў, паводле звестак спецслужбаў, у студзені 1955.

## Няма яго дома

— Ай, навошта вам Іван? Няма яго дома!— кажа Марыся, жонка Івана Адамовіча. — Ды што ён ужо можа вам апавесці. З галавой у яго цяпер не ў парадку. Загаворваецца, не тое кажа...

Мы падумалі, што спазніліся гады на тры, і зазбіраліся з хаты. А тут сам спадар Адамовіч ідзе са спальні.

— Жыхар быў шпіёнам і вялікім прахадзімцам! Удача заўсёды была на яго баку!— канстатуе спадар Іван.

— Ну, во! Я ж казала будзе вярзці абы-што!— перабівае жонка.

— Не, спадарыня Марыся!— кажа аўтар гэтых радкоў. — Ён не загаворваецца. Жыхар сапраўды быў шпіёнам, то бок дэсантнікам беларускага батальёна «Дальвіц», сфармаванага ў 1944 немцамі ў Прусіі.

— Ён тут пасля вайны настаўнічаў, — працягвае спадар Адамовіч. — Быў час, калі беларусаў 1927—1928 гадоў нараджэння забіралі ў войска, а потым адпускалі. Забралі і Жыхара. Там доўга вырашалі: ці падобны ён на аднаго шпіёна? Адпусцілі. І Жыхар вярнуўся дадому. А праз дзень-другі па яго «прылятаюць» дахаты: лейтэнант і салдат. Жыхар кіўнуў маці... І ўжо графін з самагонкай стаіць на стале! Селі, выпілі. Жыхар пайшоў нібы за новай порцыяй самагону. Сядзяць лейтэнанцік і салдацік, чакаюць за сталом... а Жыхара след астыў...

Як піша гісторык, супрацоўнік архіва КДБ Ігар Валахановіч у кнізе «Антысавецкае падполле на тэрыторыі Беларусі ў 1944—1953 гадах», у 1946-м, пасля няўдалай спробы арышту Жыхара «як германскага агента», ён перайшоў на нелегальнае становішча.

— А што потым гэты Жыхар пачаў тут вычвараць! — працягвае Іван Адамовіч. — У бок Шаркаўшчыны, у нейкай вёсцы, даведаліся асабісты, што ў пуні аднаго гаспадара знаходзяцца жыхараўцы. Загадваюць гаспадару: «Ідзі, скажы бандытам — няхай здаюцца, а то запалім пуню!» Гаспадар сказаў... Выбеглі двое. Міліцыянты пачалі страляць. Тыя заваліліся, ляжаць. Міліцыянты падышлі... А яны, ляжачыя, пакасілі ўсіх з аўтаматаў.

— А за што Вас пасадзілі на шэсць гадоў?

— За што? Жыхар тады ў нашых Квачах перахоўваўся. Я ведаў, але не сказаў! Ля маёй жа хаты Жыхар забіў міліцыянта...

## Свінням есці

У Жыхара была дамоўленасць з гаспадыняй. Калі міліцыянты завіталі ў яе хату, яна дала ўмоўны знак, раней часу панесла свінням есці. Але і міліцыянты сцямілі: Жыхар — тут! І ціхком пайшлі за ёй у хлеў, дзе хаваўся Жыхар. Але былы дыверсант прадугледзеў шляхі адыходу. Вылез праз патаемны лаз і зайшоў са спіны. Застрэліў глыбоцкага міліцыянта Маляўку, а другі ў страху збег. З тым другім былі потым разборкі: чаму кінуў таварыша ў бядзе? Але дамо слова спадару Івану:

— ...Жыхар забраў зброю, адзеў Маляўкаву фуражку, яго плашч, сеў на Маляўкавага каня і паехаў праз калгасныя палеткі, дзе яго бачыла шмат народу. Нават крыкнуў: «Я забіў Маляўку!» Дык маці маю пасля таго забралі — далі 25 гадоў, сястру забралі — далі 25,5 года, другой сястры — 10, мне — 6...

## На хран трэба

Адамовіч адсядзеў у Краснаярску два гады і шэсць месяцаў, пасля памёр Сталін і была амністыя. Дамоў вярнуўся ў 1953-м. А Жыхар усё яшчэ партызаніў! І «органы» спрабавалі прыбраць няўлоўнага партызана рукамі Адамовіча:

— Далі мне міліцыянты маўзер у вялікай кабуры. Каб Жыхара забіў. Маўляў, тады і будзеш зусім вольны. А я рашыў: «На хран мне патрэбныя вы і ваш Жыхар!..»

Я не збіраюся ганіць глыбоцкіх міліцыянтаў, якія дзесяць гадоў не маглі даць рады Жыхару. Сёння б яго назвалі элітай спецназа. Падрыхтоўка ж глыбоцкай міліцыі ў той час не дароўнівала падрыхтоўцы выхаванца абвера.

## Людзі помсцілі саветам

Дый Жыхар дзейнічаў на сваёй тэрыторыі, дзе размаўлялі выключна па-беларуску, хто б сябе кім ні вызнаваў. Яго перахоўвалі, кармілі, не выдавалі нават коштам уласнай свабоды: так людзі помсцілі савецкай уладзе за высылку і расстрэлы сваякоў.

— Як, на Ваш погляд, за што змагаўся Жыхар? — запыталі мы ў спадара Івана.

— Супраць савецкай улады! Ён яе не любіў, а ўлада не любіла яго яшчэ больш!

Паводле звестак І.Валахановіча, Жыхар загінуў у студзені 1955-га. Опергрупа ў складзе маёра Блінова, капітана Самалётава, лейтэнанта Ганчарова, асабіста Ціпчанкі і старшыні мясцовага калгаса Савацеева заспелі ў доме грамадзянкі Вайцяховіч у вёсцы Карповічы Дунілавіцкага раёна невядомага мужчыну. Ён пачаў адстрэльвацца і быў забіты.

Пры ім знайшлі дакументы на імя Жыхара Яўгена Іванавіча 1925 г.н., ураджэнца вёскі Навасёлкі Мядзельскага раёна. Але ці Жыхар то быў? Іван Адамовіч не пэўны:

— Людзі з Дзеркаўшчыны, Ласкаўшчыны, Квачоў, якія пераехалі ў 1950-я ў Польшчу жыць, бачылі там Жыхара і пісалі аб гэтым сюды ў лістах...

## Зрывай Сталіна

Пару гадоў таму іншы чалавек апавёў аўтару неверагодную гісторыю. Пачатак 1950-х. Вёска Сокалава за 5 км ад Глыбокага. Вяселле. Грае гармонік. Хтосьці танчыць. Некалькі маладзёнаў сядзяць на лаве. Падыходзяць трое ў плашчах, у аднаго з-пад крыса тырчыць руля аўтамата ППШ.

— Камсамольцы ёсць?— пытаецца адзін з візіцёраў.

Хтосьці з хлопцаў памкнуўся задзерціся... Сусед па лаўцы наступіў на нагу: «Маўчы! Гэта Жыхар!»

— Дзе сельсаветчыкі?— пытае Жыхар.

Яму паказалі. Сельсаветчыкаў пашыхтавалі і павялі ў Верхняе, цэнтр сельсавета. Як выйшлі з вёскі, Жыхар свіснуў. З розных месцаў пачуліся свісты ў адказ. Дадзена было зразумець: вёска ў аблозе.

— Адчыняй дзверы!— загадвае Жыхар сельсаветчыцы.

— Ключы забылася!

— Забылася? У мяне ёсць чым адчыніць! — дастае гранату.

— Ой, знайшліся ключы!

— Адчыняй сейф!

А што ў тым сейфе было? Паперы: падаткі, спісы жыхароў...

— Выносьце на вуліцу! Зрывай партрэт Сталіна са сцяны,— загадвае Жыхар сельсаветчыку.

— Не буду!

— Зрывай! — Жыхар сцебануў пугай.

Мужчына сарваў, пабіў шкло, падраў партрэт правадыра.

Гарэлі паперы Вярхнянскага сельсавета. Вакол вогнішча, сельсаветчыкі вадзілі карагод, крычалі: «Смерць Сталіну!»...

Я потым распытваў пра гэту гісторыю ў розных людзей.

— Было! — казалі яны. — Нават акопы жыхараўцы выкапалі. Чакалі міліцыянтаў з Глыбокага.

## Няма на іх Жыхара!

Ці бралі штурмам Навагрудак беларускія партызаны антысавецкага рэзістансу? Пакажыце хоць адну жывую душу, якая пра тое памятае! Жыхар «узяў» два раёны — Глыбоцкі і Пастаўскі — на некалькі гадоў. І аб гэтым памятаюць.

Чуеш цяпер ад старых людзей: «Няма на іх Сталіна!» Я ж чуў гадоў трыццаць таму ад яшчэ старэйшых: «Няма на іх Жыхара!»

У сярэдзіне 1990-х у нейкай газеціне прачытаў прыгожае паданне. Маўляў, на пастаўскім хутары, дзе яго абклалі, Жыхар, абгарнуўшыся бел-чырвона белым сцягам, з воклічам «Жыве Беларусь!» прыняў апошні свой бой. Паклаў з кулямёта не адзін дзясятак міліцыянтаў дый сам загінуў. Не веру, каб дыверсант так лёгка пракалоўся. Вам жа кажуць: Жыхар быў вялікім прахадзімцам, а гібель ніяк не ўкладаецца ў гэты вобраз. Мо спачывае дзесьці на ціхіх могілках Гданьскага Памор'я, куды ўцяклі з савецкага раю, тысячы заходніх беларусаў.

А хто быў апошнім беларускім партызанам у лясах паміж Глыбокім і Паставамі? Не Жыхар. Вось што расказаў ляснік-пенсіянер са старой, яшчэ польскіх часоў леснічоўкі на возеры Баравым на Пастаўшчыне: «Дакладна не памятаю, які гэта быў год — мо 1959-ы, а мо і 1957-ы... Я пайшоў у грыбы. Бачу — наперадзе дым ад кастра. Падышоў. Сядзяць трое у плашчах, у двух карабіны, у трэцяга аўтамат. Сушаць вопратку. Мяне не чапалі, адпусцілі...»



СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ



**Група Жыхара дзейнічала ў Глыбоцкім і Пастаўскім раёнах.**

## СПОРТ

### Футбол: вышэйшая ліга

**28 і 29 красавіка (субота і нядзеля)** пройдуць матчы 7-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе.
Цэнтральны матч пройдзе ў Барысаве **ў суботу**: згуляюць БАТЭ і салігорскі «Шахцёр». Пачатак а 19-й.
Рэшта матчаў пройдзе **ў нядзелю, 29 красавіка:** «Мінск» — «Гомель», «Белшына» (Бабруйск) — «Нафтан» (Наваполацк), «Брэст» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна), «Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Мінск).
Наступны тур пройдзе ўжо **ў чацвер, 3 мая:** «Шахцёр» — «Нёман», «Тарпеда-БелАЗ» — БАТЭ, «Нафтан» — «Брэст», «Гомель» — «Белшына», «Славія» — Мінск».

### Гонкі

**29 красавіка (нядзеля)** у спартыўным комплексе «Лагойск» адбудзецца «Адкрыццё сезона» — «Burn Drift Лагойск». Пачатак а 12-й. Уваходны білет — 70 тыс.

## КАНЦЭРТЫ

### Срэбнае вяселле

**26 і 27 красавіка а 19-й у Канцэртнай зале ДК «Сукно» (Матусевіча, 20)** выступіць кабарэ-бэнд «Срэбнае вяселле» з новай праграмай Laterna Magica, названай у гонар дыяпраектара XIX ст. — «чароўнага ліхтара». Музыкі абяцаюць «карцінкі з жыцця».

### Крамбамбуля ў Вільні

**28 красавіка ў Вільні, у клубе Loftas (Svitrigailos, 29),** «Крамбамбуля» прэзентуе альбом «Драбадзі-драбада». Гэта еўрапейскія народныя хіты, перарobленыя на сучасны лад. Пачатак а 20-й.

### Варвары блюза: Варашкевіч і Аруцюнаў

**26 красавіка ў Coyote (пр. Незалежнасці, 117)** — легенда беларускага року Ігар Варашкевіч і легенда расійскага блюза Мікалай Аруцюнаў у сумесным праекце «Варвары блюза». Пачатак а 19-й.

### Глеб Самойлаў (экс «Агата Крысці»)

**28 красавіка ў Re:public (Прытыцкага, 62)** — Глеб Самойлoff & The Matrixx (экс «Агата Крысці») прэзентуюць свой новы альбом «Трэш». «Агата Крысці» — дэпрэсіўна-маніякальная легенда расійскага року родам з Екацярынбурга. Пачатак а 19-й.

### Аляксей Шадзько

**30 красавіка ў Малой зале КЗ «Мінск»** — канцэрт Аляксея Шадзько пры ўдзеле Уладзіміра Ткачэнкі і Ігара Леўчука. Пачатак а 19-й.

### Вечар Моцарта. Камерата Зальцбург

**26 красавіка а 19-й у Белдзяржфілармоніі (Незалежнасці, 50)** — вечар музыкі Моцарта. Бярэ ўдзел «Камерата Зальцбург» (Аўстрыя) — камерны аркестр з роднага горада вялікага кампазітара. Гэта калектыў з багатай гісторыяй і традыцыямі, які неаднакроць заваёўваў тытул найлепшага інтэрпрэтатара твораў Моцарта.

### Дуэт імя Чэхава

**28 красавіка ў клубе «Мулен Руж show» (Кальварыйская, 1)** выступіць «Дуэт імя Чэхава» — адны з найлепшых украінскіх комікаў. Побытавыя і светапоглядныя мініяцюры Андрэя Малочнага і Антона Лірніка б'юць рэкорды наведванняў у інтэрнэце. Пачатак а 20-й.

### Дай Дарогу!

**1 мая ў Re:Public** — канцэрт брэсцкага гурта «Дай Дарогу!». Чакаецца жорсткі панк-рок з элементамі хіп-хопа. Пачатак а 19-й.

### «Зніч»: акустыка

**2 мая ў Палацы культуры ветэранаў** — фолк-метал гурт «Зніч» з акустычным канцэртам. Пачатак а 19-й.

### Alta mente і «Нельга забыць»

**29 красавіка а 19-й у «Салтайме» (пр.Незалежнасці 131/1)** — сумесны канцэрт гуртоў маладых Alta Mente і «Нельга забыць». Alta Mente — фольк-рок, прыпраўлены цымбаламі і віяланчэллю. «Нельга забыць» — акустычны рок з багатым інструментальным складам.

### Традыцыі і пераемнікі 2012

**28 красавіка ў Палацы культуры ветэранаў (Купалы, 21)** прой-дзе канцэрт маладзёжных постфолкавых гуртоў. Возьмуць удзел: дудары Алесь Жура, Анціс Бяржыньс (Латвія), гурты «Ветах», «Ліцвіны», «Талака», капэлы дударскай і смыковай музыкі «Раме», «Карынка», «Гуды», выканаўца на гайдзе Бернард Гарай (Славакія), гурт Змітра Парамонава «КСМ» (Расія) і іншыя. Пачатак а 16-й.

### Папараць-кветка: фестываль студэнцкіх хораў

**Ад 2 да 6 мая ў Мінску і Нясвіжы** пройдзе VII-ы Міжнародны форум студэнцкіх хораў «Папараць-кветка». Ён збярэ 350 удзельнікаў з 10 краін свету. Прагучаць класічныя і джазавыя творы, духоўная музыка, народныя спевы. **2 мая а 19-й у КЗ «Верхні горад» (пл.Свабоды, 25)** — адкрыццё форуму з юбілейным канцэртам Народнай харавой капэлы БДУ. Уваход вольны.

### Музыка польскіх і беларускіх кампазітараў

**27 красавіка а 19-й у камернай зале імя Р.Шырмы** — канцэрт музыкі сучасных беларускіх і польскіх кампазітараў. Выканаўцы: камерны аркестр Акадэміі музыкі Gradus ad Parnassum.



**Бодзібілдынг**
27 красавіка (пятніца) у мінскім Палацы спорту пройдзе 25-ы чэмпіянат краіны па бодзібілдынгу і фітнэсе. Пачатак а 15-й, білеты ад 23 тыс. да 65 тыс.





### Кветкі. Насенне. Сад. Гарод

**Да 29 красавіка ў «Мінск-Экспа» (Даўмана, 23)** працуе 12-я міжнародная спецыялізаваная выстава «Кветкі. Насенне. Сад. Гарод»: дача, прысядзібная і фермерская гаспадарка, ландшафтны дызайн, загараднае будаўніцтва, флора нашага дома.

## ІМПРЭЗЫ

### Fun house: фэст моладзевых праектаў

**25—29 красавіка ў Музеі сучаснага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** пройдзе фестываль мала-дзёжных эксперыментальных арт-праектаў Fun house. У праграме — жывапіс, фота, дызайн, арт-інсталяцыі, шоу прычосак, бодзі-арт, чайная цырымонія, паэтычны вечар, майстар-класы па вырабе вінілавай лялькі, ружы з атласнай стужкі, фетравай кветкі, перформанс. Даведкі па т.: (017) 284-86-21.

## ВЫСТАВЫ

### Кітайскія карціны-сувоі



**Да 30 красавіка ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава традыцыйнага кітайскага жывапісу «гахуа». У экспазіцыі — карціны-сувоі Сюй Бэйхуна, Мі Вэнь Цзэ, Янь Фэй Хуна, Сяо Юя.

### Нашы дзеці

**27 красавіка а 14-й у дзіцячым забаўляльным цэнтры Cosmo (Ціміразева, 123/2, ГЦ «Град», 6-ы ўзровень)** адчыняецца дабрачынная фотавыстава «Нашы дзеці». Асноўная мэта — з дапамогай прац Іны Дуброўскай нагадаць гасцям выставы, што не ўсе дзеці бачаць казачныя сны, многім патрэбная тэрміновая дапамога.

### Нявінных вачэй няма

**Да 29 красавіка ў Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава польскага фотамастака Войцеха Вільчыка «Нявінных вачэй няма». Яна прысвечаная гісторыі габрэяў Польшчы.

## ТЭАТРЫ

### 26 красавіка

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

### 27 красавіка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 28 красавіка

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»

### 29 красавіка

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Карміна-бурана. Кармэн-сюіта»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

### 1 мая

**Лялек** — «Мыйдадзір»

### 2 мая

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Купалаўскі** — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»
**Оперы і балета** — «Папялушка»

### 3 мая

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»

## КІНО

### Рыяна супраць іншапланетнікаў

**Марскі бой (Battleship)**
ЗША, 2012, каляровы.
**Рэжысёр:** Пітэр Берг
**Ролі выконваюць:** Тэйцлар Кітч, Лаям Нісан, Аляксандр Скасгард, Рыяна
**Жанр:** Баявік
У аснове фантастычнага баевіка «Марскі бой» — сапраўды гульня, дзе трэба ўсляпую атакаваць караблі праціўніка. Ваяваць паміж сабой будуць зямны флот і іншапланетнікі.
Адным з прадзюсараў стужкі выступіла кампанія Hasbro, якая дапамагла Майклу Бэю выпусціць «Трансформераў». У фільмаў «Трансформеры» і «Марскі бой» можна знайсці шмат агульных рысаў. І там, і там зямляне ваююць з іншапланетнымі робатамі, у абодвух выпадках — маштабныя здымкі з вялікай колькасцю спецэфектаў. У ролі адной са змагарак з іншапланецянамі выступіла вядомая спявачка Рыяна.
Запрашаць у фільмы музыкаў — пашыраная з'ява: так Уіл Сміт з рэп-выканаўца некалі ператварыўся ў суперзорку Галівуда. Ацаніць акцёрскія здольнасці поп-дзівы Рыяны можна будзе ў кінатэатрах «Аўрора», «Мір», «Масква», «Кастрычнік», «Беларусь».

**Tut.by**



# Скарлет Ёхансан прызналася ў беларускім паходжанні

«Мая сям’я **паходзіць з Мінска**, з Беларусі» — паведаміла яна на прэзентацыі «Мсціўцаў».



Скарлет Ёхансан у ролі Чорнай Удавы.

«Мая сям’я паходзіць з Мінска, з Беларусі, — расказала акторка ў Маскве.» Мая маці вельмі хвалявалася, калі мы ляцелі ва Усходнюю Еўропу», — кажа актрыса. У Беларусі Ёхансан яшчэ ніколі не бывала.

Актрыса прыляцела ў Маскву на прэм’еру фільма «Мсціўцы», у якім выканала ролю расейскай Наташы Раманавай, па мянушцы Чорная Удава.

Па словах Ёхансан, яе зацікавіў вобраз расейскай шпіёнкі не ў апошнюю чаргу з-за каранёў. «Мне было вельмі цікава сыграць Чорную Удаву яшчэ раз», — кажа Ёхансан, якая першы раз увасобіла гэты вобраз у фільме «Жалезны чалавек — 2».

«Мсціўцы» маюць сюжэт, заснаваны на серыі коміксаў: група супергерояў ратуе свет ад невядомага ворага.

Скарлет Ёхансан нарадзілася ў 1984 у сям’і архітэктара Крыстэна Ёхансана і Мэлані Слоўн, якая паходзіць з беларускіх яўрэяў. Найбольш вядомыя ролі Ёхансан сыграла ў фільмах «Цяжкасці перакладу», «Чорная архідэя», «Сенсацыя». У фільмаграфіі актрысы больш за 30 стужак. Акрамя кіно, Ёхансан спявае і выступае ў ролі мадэлькі.

**Юрась Ускоў**

## Протадыякан Кураеў заклікаў адлучыць Кіркорава ад царквы

**Хрышчэнне сурагатнай** дачкі спевака выклікала спрэчкі.

На Вербніцу ў маскоўскім храме Іллі Прарока адбыўся незвычайны хрост: Філіп Кіркораў са сваёй жонкай пры зачыненых дзвярах хрысцілі дачку.

Між тым Расейская праваслаўная царква трактуе сурагатнае мацярынства як паводзіны, непрымальныя для хрысціяніна, бо яно разбурае паняцце сям’і як таямніцы дваіх людзей і прычыняе з часам боль фізічнай маці дзіцяці. Гэта дало падставу вядомаму расейскаму публіцысту, протадыякану Андрэю Кураеву, раскрытыкаваць святара, які правёў абрад.

Нельга ператвараць хрост у падзею шоу-бізнэсу, мяркуе протадыякан. Ён ганіць святара за тое, што хрост прайшоў без папярэдняй катэхізацыі. «Святар, ведаючы незвычайнасць дзіцяці, якое ён рыхтуе да хрышчэння, звярнуў бы іх увагу на тое, што сурагатнае мацярынства не вітаецца Царквой», — заявіў Кураеў. Праваслаўных абурыла, што Кіркораў дазваляе сабе гаварыць аб удачы з першай дачкой і жаданні завесці і другое сурагатнае дзіця.

Кураеў крытыкуе тое, што царква няроўна ставіцца да простых прыхаджанаў і да багатых «спонсараў». Яго абурэнне выклікаў і той факцік, што пасля таямніцы хросту Кіркораў, нібы іншы вядомы персанаж, звярнуўся да прысутных з амбона.

Кураеў напісаў у блогу, што «такіх бацькоў трэба не віншаваць, а накладаць епітым’ю і адлучаць ад Царквы на некалькі гадоў».

**Сяргей Гезгала**



**Фотафакт**



У Жодзіне працуе адзіная ў Беларусі жаночая гімназія.

## Галаграма-канцэрты набіраюць папулярнасць

Камп’ютарная выява рэпера Тупака, які загінуў у 1996 годзе, выглядала **на сцэне як жывая**.

На відэасэрвісе YouTube за два дні амаль сем мільёнаў праглядаў набраў ролік з выступам рэпера Тупака. Што незвычайнага ў ім? Рэч у тым, што спявак быў забіты ў 1996 годзе, а выступ... адбыўся днямі. Тупак з’явіўся на сцэне адной з канцэртных арэн ЗША ў выглядзе галаграмы. «Ён нават змог павітацца з гледачамі!» — шалелі фаны.

Канцэрты з выступоўцамі-галаграмамі імкліва набіраюць папулярнасць — бо ўваскрашаюць на сцэне музыкаў, якія памерлі. Тупак Шакур, напрыклад, для рэп-культуры асоба, роўная The Beatles у поп-культуры. Цяпер на шматлікіх форумах абмяркоўваюць, ці той быў канцэрт у Коачэле вартым і ці можна яго ўвогуле лічыць канцэртам.

Тупак Шакур (па-англійску Tupac, або 2Pac) стаў папулярным дзякуючы сваім песням пра жыццё ў гета. У свеце прадалі болей за 75 мільёнаў ягоных альбомаў. Часопіс Rolling Stone ўключыў Тупака ў спіс 100 найважнейшых артыстаў усіх часоў.

Пару гадоў таму выступаў галаграфічны Элвіс Прэслі, пасля канцэрт выйшаў на DVD. Хадзілі, але пакуль не спраўдзіліся, чуткі, што арыгінальным складам дадуць канцэрт The Beatles: Рынга Стар і Пол Макартні — ужывую, а нябожчыкі Джордж Харысан і Джон Ленан — у выглядзе галаграмаў.

Пасля поспеху канцэрта Тупака крытыкі разважаюць пра тое, што ў хуткім часе галаграфічныя канцэрты змогуць канкураваць з канцэртамі звычайнымі. Прынамсі, Эліс Купер, жывы і здаровы, ужо выступаў як галаграма.

**ЮУ**

### Сцісла

**Рэгіянальныя цягнікі**

Ад 25 красавіка швейцарскі цягнік рэгіянальных ліній будзе курсаваць па маршруце Мінск—Баранавічы часцей. Адпраўленне з Мінска — а 8.25, 12.59, 22.05 штодзень, і ў 18.06 у пятніцу і па выхадных. А па маршруце Баранавічы—Брэст замест аднаго цягніка будуць хадзіць тры.

**З Мінска ў Вільню за дзве гадзіны**

Беларусь і Літва дамовіліся мадэрнізаваць чыгуначныя шляхі да 2015, каб скараціць час дарогі між сталіцамі. Пасля заканчэння першага этапу праекта, дзякуючы якому шлях стаў займаць не чатыры, а тры гадзіны, пасажырапаток падвоіўся.

**Новых атракцыёнаў няма**

У сталічных парках запрацавалі атракцыёны. Праўда, сёлета новых забавак не закуплялі.

**ЯМ**

## У Мінску пачаўся веласезон

По выходных 26-кіламетровая веладарожка ўжо перапоўненая.

Запрацавала і веласіпедная інфраструктура Мінска: паркоўкі, пункты пракату, гандлёвыя кропкі і месцы для адпачынку.

Дзе ўзяць ровар напракат? «Прадпрыемства «Адпачынак» задзейнічала два сезонныя пункты пракату на праспекце Пераможцаў, 2 і 22, а таксама ў парку Перамогі, — паведамляе Таццяна Ермачкова, начальнік аддзела арганізацыі і развіцця сферы паслуг ДУ «Упраўленне бытавога і гасцінічнага абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама». — У маі плануем адкрыць яшчэ два сезонныя пункты пракату: у Лошыцы і ў парку імя Янкі Купалы». У параўнанні з мінулым годам цана гадзіннай арэнды ровара вырасла на 10 тысяч рублёў, да 25 000. У атэлье і дамах пракату арандаваць ровар можна на суткі і больш за 20—40 тысяч у гадзіну.

Ровары даюць напракат і прыватнікі (пр.Пераможцаў, 111; вул. Сухая, 23; зав.Масквіна, 4 і вул. Малініна, 35). Ровар на гадзіну там можна арандаваць за 20—30 тысяч. За кожную наступную гадзіну пракату цана расце на 10—12 тысяч.

**Паводле Tio.by**



Беларуская топ-мадэлька стане першай лэдзі англійскай прэм'ер-лігі. 23-гадовая топ-мадэль Каця Зінгарэвіч (Даманькова) — жонка новага ўласніка футбольнага клуба «Рэдынг», расійскага бізнэсоўца Антона Зінгарэвіча. Футбалісты з Беркшыра заваявалі пуцёўку ў прэм'ер-лігу, вяртаючыся туды пасля некалькігадовай адсутнасці. У 17 гадоў школьніца з Мінска Каця Даманькова заняла першае месца на нью-ёркскім конкурсе прыгажосці. Цяпер яна працуе мадэллю ў самай папулярнай кампаніі па продажы жаночай бялізны Victoria's Secret.




Прыпынкі ў Хойніцкім раёне размаляваныя партрэтамі беларускіх класікаў і цытатамі з іх.




«Вузкаплечыя памочнікі спецназа». Сяброў БРСМ прыцягваюць на дапамогу органам МУС.



У часе агульнарэспубліканскага суботніка, што прайшоў 21 красавіка, прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч заліваў бетонную падлогу.

## Анекдоты

* * *

Чым больш сумленны і празрысты механізм галасавання, тым больш складаныя і даражэйшыя паліттэхналогіі.

* * *

Жонка мужу:

— Ты зноў ляжыш на канапе...

— Затое ты знаеш, дзе заўжды мяне можна знайсці.

* * *

Аказваецца, што чарніцы ў лесе вырошчваюць камары. Гэта такая прынада для людзей, камары так на іх палююць.

* * *

Мяне грошы не хвалююць, яны мяне супакойваюць.

* * *

Рабочыя лакафарбавага завода вяртаюцца дадому праз казачны лес.

* * *

Прыбраная кватэра, смачная вячэра — дзве прыкметы таго, што зламаўся камп'ютар.

* * *

Хуткасць гуку — дзіўная рэч. Бацькі кажуць табе нешта ў 20 гадоў, а даходзіць толькі ў 40...

## «НН» сто гадоў таму

**Паведамляем чытачам, што нумар «НН» не мог выйсці вось з якой прычыны.** Віленская цэнзура запыталася ў судзе, па якой стацці рэдактара А.Уласава судзілі за «Нашу Ніву» і якую кару ён адбыў. Суд адказаў, што судзілі яго па 129 ст., і адсядзеў ён два месяцы ў крэпасці. А як па закону, той, каго засудзілі па 129 стацці, не мае права быць рэдактарам, дык віленскі цэнзар паслаў у суд бумагу, і адтуль прыйшоў прыказ адабраць ад А.Уласава пазваление на рэдактарства. А напраўдзе асудзілі Уласава не па стацці 129, па якой вінавацілі, а паводлуг 132 ст., каторая права на рэдактарства не адбірае. Дастаўшы копію прыгавору, рэдактар паехаў у Пецярбург і падаў там жалабу ў Глоўнае Упраўленне да спраў друку. Пераканаўшыся, што адбіраць рэдактарства ад А.Уласава нельга, Гл.Упр. паведаміла Віленскай уласці і загадала не спыняць «Нашай Нівы».

**№15—16. 1912.**

**Поўны касцян.** Сяргей Касцян, прызначаны кіраваць усімі літаратурна-мастацкімі выданнямі, спансаванымі дзяржавай, пачаў сваю дзейнасць бардзджэй, чым многія меркавалі — з разгону рэдактарскіх кадраў. Новым рэдактарам «Полымя» будзе прызначаны Мікола Мятліцкі, «Маладосці» — Раіса Баравікова, «Нёмана» — Ніна Чайка.

**№16. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснік галоўнага рэдактара | Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 24.04.2012.
Замова № 1808.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 12016